№№161–162
(3700–3701)
16 кастрычніка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

СКАНДАЛ

## Бітва за цукеркі

*Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў да канца кастрычніка павялічыць дзяржаўную долю ў СААТ "Камунарка" да 57 працэнтаў, а ў СААТ "Спартак" — да 60. І гэта з сённяшніх 22 працэнтаў на мінскай фабрыцы і 13,09 працэнта на "Спартаку". Калі прыватных акцыянераў пазбаўляюць уласнасці на карысць дзяржавы, ва ўсіх краінах гэта называецца нацыяналізацыяй. Але сітуацыя з кандытарскімі фабрыкамі мае свае адметныя асаблівасці.*



*На сённяшні дзень асноўным акцыянерам "салодкіх" прадпрыемстваў з'яўляецца амерыканскі бізнесмен беларускага паходжання **Марат Новікаў**. Як сам Новікаў, былы дырэктар буйнога мінскага ўніверсама, здолеў набыць зайздросныя прадпрыемствы? Пра гэта "Народнай Волі" расказаў былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, былы бізнесмен **Сяргей СКРАБЕЦ.***



— Нічога дзіўнага ў апошніх падзеях няма, — гаворыць Скрабец, які ведае сітуацыю з самага стрыжаня. — Аляксандр Лукашэнка робіць выгляд, што не пры ім аддаваліся прадпрыемствы, але на самай справе ўсё рабілася напрыканцы 90-х. І тады гэта адбылося не менш брутальна — толькі на карысць Новікава і яго хаўруснікаў. Дзяржаўныя інтарэсы тады нікога асабліва не цікавілі.

Нагадаю тую сітуацыю. Было прадпрыемства "Белбабаеўскае". Яго заснавальнікамі з'яўляліся расійскі канцэрн "Бабаевское" і Адміністрацыя прэзідэнта. Я з'яўляўся дырэктарам.

Была фірменная крама, было прадпрыемства... Сюды пастаўляліся "бабаеўскія" цукеркі, яны нам давалі сыравіну, мы ім пастаўлялі павідла, сухое малако, карацей, супрацоўнічалі. І тады ўзнікла ідэя, каб "Камунарка" ўвайшла ў холдынг "Бабаевский" на прымальных умовах. Першае, для чаго гэта было трэба, — выхад на аграмадны расійскі рынак. Па-другое, грошы, інвестыцыі. Быў распрацаваны інвестыцыйны праект, па якім "Бабаевка" давала каля 20 мільёнаў долараў інвестыцый, каб дабудаваць адміністрацыйны корпус і пабудаваць яшчэ адзін корпус для швейцарскай лініі па вытворчасці шакаладу з буйнымі дабаўкамі і цукерак у каробках. Праект падтрымалі і міністр сельскай гаспадаркі, і прэм'ер-міністр (на той час ім быў Сяргей Лінг). І калі ўжо былі падпісаны ўсе дакументы, раптам у справу ўмяшаўся Марат Новікаў. Я так разумею, што яму дапамагаў Міхаіл Мясніковіч і некатоыя іншыя асобы. Яны пралабіравалі ўвядзенне "залатой акцыі" на фабрыцы "Камунарка" (гэта значыць, маючы нават адну акцыю, дзяржава магла правесці любое рашэнне) і прызначылі свайго дырэктара. Для гэтага была распаўсюджана інфармацыя, што "Бабаевское" хоча купіць "Камунарку" за бутэльку гарэлкі. Гэта была адкрытая і нахабная правакацыя. Але да патрэбных вушэй інфармацыя дайшла. У выніку ім удалося прагнаць канцэрн "Бабаевское" з беларускага рынку.

Сёння нехта тымі ж метадамі давёў да тых жа вушэй, што ўжо Новікаў усё робіць на "Камунарцы" "за бутэльку гарэлкі"...

**— Вы спрабавалі супрацьстаяць таму захопу?**

— Я нават пісаў запіску ў Савет бяспекі. "Бабаевское" — гэта профільны інвестар. Гэта не нейкі там прайдзісвет, які прыйшоў і аб'явіў, што будзе прадаваць прадукцыю па ўсім свеце і за гэта будзе нешта "адсцёгваць". Гэта не нейкі гастраномшчык, які не мае ні досведу, ні грошай, ні рынку. Але мяне і слухаць не захацелі.

Я тэлефанаваў Марату Новікаву і прапаноўваў яму сустрэцца. Гаварыў: "Давайце адкрыем інвестыцыйны конкурс. Мы ж гэта для краіны робім, а не для сваёй уласнай кішэні". Але ён на гэта не пагадзіўся. Так што мы маем тое, што маем...

Адно вам магу сказаць: у той час, калі б не ўмяшальніцтва ўплывовых апекуноў, не буду называць іх прозвішчы, Лукашэнка ведае кожнага, усё было б па-іншаму.

**— Атрымліваецца, што пару чалавек лёгка змаглі згарнуць усё, што было напрацавана спецыялістамі...**

— Уявіце сабе, што на нейкае прадпрыемства прыйдзе невядомы чалавек і прапануе тое, што Новікаў. Пры нармальных умовах яго і слухаць не будуць. Яму скажуць: "Не, ты, даражэнькі, спачатку пабудуй прадпрыемства, папрацуй, унясі свае грошы і г.д. А потым пагаворым".

А тут — на табе! Ішоў сабе Новікаў па вуліцы і падумаў: "А ці не прыдбаць мне кандытарскую фабрыку?" І ўсё так лёгка ў яго атрымалася. Нават для беларускай рэчаіснасці гэта дзіва нейкае — аддаць фабрыкі таму, хто гэтым бізнесам ніколі не займаўся.

Я сітуацыю разумею так: ва ўрадзе добра ведалі, хто стаіць за Новікавым, з кім ён сябруе і раіцца і хто ў рэшце рэшт стаіць за ўсёй гэтай здзелкай. І дазволілі. Нават нягледзячы на тое, што скандал з расійскім канцэрнам "Бабаевское" азначаў істотныя праблемы на расійскім накірунку. Але дзяржаўны інтарэс пры гэтым нікога не цікавіў. І Аляксандра Лукашэнку ён тады не цікавіў. Бо яму ўвялі ў вушы, што менавіта так трэба зрабіць і не інакш.

**— Чым гэтая сітуацыя павярнулася для беларускіх вытворцаў?**

— Тым, што на расійскім рынку пайшоў поўны правал. Падзенне экспарту ў параўнанні з гадамі, калі рынак нам "адкрываўся" праз канцэрн "Бабаевское", катастрафічнае. Акрамя таго, мы пазбавіліся многіх вядомых брэндаў — як, напрыклад, "Мішка на Поўначы". А калі б не ваявалі з вядомым вытворцам, то такіх праблем не было б.

Лукашэнка праўду сказаў: Марат Новікаў за 15 гадоў нанёс вялікі ўрон эканоміцы. З ягоным прыходам закрыўся расійскі рынак. Цяпер экспарт прадукцыі складае 18%, а было 70%! Экспарт практычна закрыўся! Але не толькі Новікаў у тым вінаваты. Не сам сабе ён "кандытарку" аддаў.

**— А на якасць самой беларускай прадукцыі гэта паўплывала?**

— Канешне. Кошты выраслі, а якасць істотна пагоршылася. На жаль, гэта тычыцца і "Камунаркі", і "Спартака". Сыравіна завозіцца па павышаных коштах. А колькі дрэні рознай замест нармальнай прадукцыі з'елі нашы суайчыннікі?! З такой якасцю на іншыя рынкі і не выйдзеш — шмат цукру, мала какава-бабоў, сухое малако, замяняльнікі розныя...

**— Якая тады выгада Новікаву?**

— Толькі адна — набіць сабе кішэню. Профільны інвестар заўсёды зацікаўлены ў якасці прадукцыі і ў павелічэнні аб'ёмаў вытворчасці. А пры Новікаве скараціўся аб'ём, пагоршылася якасць, страціліся рынкі. Я не ведаю, калі прамысловасць акрыяе ад такога ўдару. Атрымліваецца, што дзяржава не зацікаўлена ў тым, каб прыцягваць профільных інвестараў. Гэтым карыстаюцца розныя прайдзісветы, каб выпампоўваць грошы за мяжу. Той жа Новікаў жыве на іншым кантыненце, у Амерыцы.

Натуральна, для "Бабаевского" было дзіўна, калі беларускі бок перакрэсліў усе дамоўленасці і пайшоў на нейкую афёру. Але што было рабіць? Такая была тады палітыка.

**— Атрымліваецца, што цяперашні паварот у справе — гэта да лепшага?**

— Атрымліваецца, што так. Лукашэнка слушна, па сутнасці, сказаў: "Хопіць рабаваць краіну!" Але каму ён гэта казаў. Сабе самому? Ці, можа, свайму ўраду, сваім памочнікам і дарадцам?.. Што ж тычыцца Новікава, то з ім абышліся так, як і ён у свой час з іншымі.

**— А ці не ведаеце, можа, ужо з'явіўся нейкі новы патэнцыйны пакупнік на гэтыя прадпрыемствы? З-за таго і скандал...**

— Пакуль нельга адназначна адказаць. Магчыма, ёсць новы профільны інвестар. Гэта можа быць і расійскі канцэрн. Але гэта стане вядома не раней, чым праз два гады. Адно скажу: гэта такая вытворчасць, дзе грошы зарабляюцца на сыравіне, а не ад продажу цукерак. Тут важна, хто будзе пастаўляць какава-бабы, сухое малако, абгорткі для цукерак. На такіх прадпрыемствах, як "Камунарка" і "Спартак", штогод, не напружваючыся, можна ў кішэню класці каля 20 мільёнаў долараў. Не напружваючыся!

**— А "Бабаевское" не збіраецца вяртацца?**

— Яны тады паставілі на нас чорны крыж і закрылі для нас свае рынкі. Сюды прыязджалі іх спецыялісты, нашы ездзілі туды, гэта быў сур'ёзны праект, які быў падтрыманы на самым высокім узроўні. Падкрэсліваю: гэта не тое, што прыйшоў нейкі карупцыянер з чамаданам грошай і папрасіў прадаць яму прадпрыемства. Праект распрацоўваўся некалькі гадоў. Адносіны развіваліся павольна і былі адкрытымі. А цяпер... Я б, канешне, з беларускім кіраўніцтвам звязвацца нікому не раіў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

НАДВОР'Е

## *Цяпло вяртаецца. Але з дажджамі*

*На гэтым тыдні ў Беларусі чакаецца цёплае для гэтай пары года надвор'е, сярэднясутачная тэмпература прагназуецца на тры-восем градусаў вышэй за кліматычную норму. Але без дажджоў і туманаў не абыдзецца.*

У **аўторак** у асобных раёнах пройдуць невялікія дажджы, ноччу і раніцай на большай частцы тэрыторыі чакаюцца туманы. Тэмпература паветра ноччу складзе плюс 6—11°С, днём плюс 9—15°С, па паўднёвым захадзе плюс 16—19°С.

У **сераду** з-за праходжання актыўнага цыклону на большай частцы тэрыторыі краіны чакаюцца дажджы, месцамі моцныя, днём па паўднёвым усходзе магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ноччу плюс 7—13°С, днём плюс 9—16°С, па паўднёвым усходзе да плюс 18°С.

**У чацвер** ноччу па паўднёвым усходзе, а днём месцамі кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Тэмпература паветра ноччу ад плюс 5°С па захадзе да плюс 12°С па паўднёвым усходзе, днём плюс 8—15°С.

У **пятніцу і суботу** дажджоў стане менш, яны пройдуць толькі ў асобных раёнах і будуць непрацяглымі. Ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература ноччу плюс 7—10°С, днём — плюс 9—16°С, па захадзе — да плюс 18°С.

Паводле інфармацыі сінёптыкаў у **нядзелю** ў паўночна-заходніх раёнах Беларусі чакаюцца кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай месцамі туман. Тэмпература паветра ноччу складзе плюс 4—11°С, днём ад плюс 8°С да плюс 15°С, па паўднёвым усходзе — да плюс 17°С.

СМЕХАТУРА

## Хто першым скочыць на тумбачку і абвесціць сябе будучым прэзідэнтам

Нацыянальная беларуская гульня — хто першым скочыць на тумбачку і абвесціць сябе прэтэндэнтам на прэзідэнцкую пасаду — пачалася. Праўда, пакуль пад слушным лозунгам — "На прэзідэнцкіх выбарах-2015 апазіцыі трэба мець адзінага кандыдата".

Прычым усе мы памятаем, з якой цвёрдасцю і ўпэўненасцю гэтыя самыя палітыкі яшчэ на мінулых выбарах адстойвалі тэзіс, што чым больш кандыдатаў — тым больш магчымасцяў данесці да людзей пасланне апазіцыі. Да таго ж ёсць і другі, не абвергнуты, тэзіс. Ніхто ў дэмакратычным асяродку не аспрэчвае той факт, што пры цяперашніх умовах правядзення выбараў удзельнічаць у іх проста няма сэнсу, бо гэта не народнае волевыяўленне ў поўным сэнсе гэтага слова, а ўсяго толькі яго імітацыя.

І тым не менш, нават не апраўіўшыся пасля апошняга "пралёту" над Палатай прадстаўнікоў, палітычныя сілы пачалі замахвацца на прэзідэнцкую пасаду.

У мінулыя выхадныя адбыўся сойм Партыі БНФ, на якім было заяўлена аб неабходнасці вылучыць на будучых прэзідэнцкіх выбарах адзінага кандыдата апазіцыі. Прадстаўнікі партыі лічаць, што для гэтага трэба праводзіць Кангрэс дэмакратычных сіл, як гэта было зроблена ў 2006 годзе, калі абралі Аляксандра Мілінкевіча. Чаму Мілінкевіч быў адзіным, але прайграў — пытанне, якое застаецца без адказу. Гэта, як быццам, сёння нікога не цікавіць. Галоўнае — гульня.

Праўда, паводле слоў кіраўніка Партыі БНФ Аляксея Янукевіча, яны будуць дамагацца, каб адзіным кандыдатам ад дэмакратычных сіл стаў менавіта іх прадстаўнік. Пастаноўка пытання, мякка кажучы, дзіўная, бо сённяшняя Партыя БНФ проста не мае яркіх, харызматычных лідараў. Дзе такія, як Пазьняк? Як прафесар Хадыка? Як Лявон Баршчэўскі?

Але ў кіраўнікоў партыі амбіцыі. Яны высока ацэньваюць... саміх сябе.

*"Мог бы вылучацца я, Рыгор Кастусёў таксама пра гэта кажа",* — заявіў Аляксей Янукевіч.

Што тут казаць? Смехатура дый годзе! Спачатку, спадар Аляксей, аднавіце тую партыю, якая была 10—15 гадоў таму. Надайце ёй той аўтарытэт, тую папулярнасць, якія яна мела пры Пазьняку. Потым завядзіце сям'ю, ажаніцеся. Адным словам, трэба яшчэ падрасці...

А што ж тычыцца шматдзетнага бацькі Рыгора Кастусёва, то ён, як усе ведаюць, у прэзідэнты ўжо балатаваўся. Мала таго што гэта скончылася пакаяннем на БТ, дык яшчэ да сёння не высветлена, ці сапраўды Кастусёў сабраў неабходную колькасць подпісаў за сваё вылучэнне? Альбо ён проста падмануў і аднапартыйцаў, і выбаршчыкаў? Па крайняй меры, нават у самой партыі знайшліся людзі, якія адкрыта заўлялі, што на тых выбарах Кастусёў падыгрываў уладзе, а тая падыгрывала яму, ён і блізка не сабраў неабходнай колькасці подпісаў, але спадарыня Ярмошына заплюшчыла на гэта вочы.

Аднак "работу над памылкамі" ніхто не рабіў і, падобна на тое, рабіць не збіраецца. Па крайняй меры, першыя заявы дэманструюць, што падыход патэнцыйных вылучэнцаў да сябе па-ранейшаму несур'ёзны і некрытычны.

Рух "За Свабоду", кіраўніком якога з'яўляецца Аляксандр Мілінкевіч, ужо заявіў, што спадзяецца стаць рухавіком аб'яднання апазіцыі і правядзення ёю сумеснай кампаніі па вылучэнні адзінага кандыдата на будучых прэзідэнцкіх выбарах. Хаця раней менавіта каманду Мілінкевіча абвінавачвалі ў расколе апазіцыі і дыскрэдытацыі самой ідэі яднання. Што з таго часу змянілася? Хто прызнаў свае памылкі, хто ў каго папрасіў прабачэння?

Да таго ж выбары адзінага кандыдата — гэта толькі палова праблемы. Як вырашыць другую палову? Як дабіцца, каб у Беларусі адбыліся сапраўдныя выбары, вынікі якіх ні ў кога не будуць выклікаць сумневу? Выпадкова ці наўмысна, але пакуль апазіцыя зняла гэтае пытанне з парадку дня. А з гэтага, даражэнькія, трэба пачынаць. Інакш зноў наступіце на тыя ж граблі.

**Алена НОВІКАВА.**

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## *Санкцыі падоўжаны*

Рашэнне падоўжыць санкцыі ў дачыненні да афіцыйнага Мінска было прынята 15 кастрычніка на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў краін ЕС у Люксембургу.

*"Улічваючы, што не ўсе палітзняволеныя былі вызвалены і ніхто з вызваленых (палітвязняў) не быў рэабілітаваны, а сітуацыя з паважаннем правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў не палепшылася, Савет працягне дзеянне абмежавальных мер да 31 кастрычніка 2013 года",* — адзначана ў каментарыі да парадку дня.

Еўрасаюз мае намер перыядычна пераглядаць абмежавальныя меры ў дачыненні да Беларусі ў залежнасці ад таго, як будзе развівацца сітуацыя ў краіне.

У паведамленні нагадваецца, што зараз 243 беларускім чыноўнікам, у тым ліку кіраўніку дзяржавы Аляксандру Лукашэнку, забаронены ўезд на тэрыторыю краін ЕС.

*"Еўрасаюз працягне патрабаваць, каб усе палітзняволеныя былі вызвалены і рэабілітаваны,* — падкрэсліваецца ў паведамленні. — *Палітыка ЕС у дачыненні да Беларусі ў любым выпадку не абмяжоўваецца санкцыямі, але таксама праяўляецца ў падтрымцы грамадзянскай супольнасці і незалежных СМІ".*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ

## Хто за «Народную Волю»,

### *той за сваё шчаслівае будучае!*

***Ці ёсць у Беларусі газета, якая лепш за "Народную Волю" адстойвае правы чалавека, яго годнасць?***

***"Народная Воля" — за шчаслівае будучае кожнага з Вас, шаноўныя сябры!***

***Будзем трымацца разам і ў 2013 годзе. І добра было б, каб чытацкая аўдыторыя пашыралася. Пастарайцеся, каб "Народная Воля" апынулася ў руках і вашага суседа, і вашага бліжэйшага сваяка, і саслужыўца, і сябра...***

***Поўным ходам ідзе падпіска на першую палову 2013 года. Не адкладвайце гэтую справу на позні час.***

***Вы — з "Народнай Воляй",***
***"Народная Воля" — з Вамі!***

***Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні, а мінчан — яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".***

***Дарэчы, фізічныя асобы могуць аформіць падпіску, не выходзячы з хаты, праз сістэму "Інтэрнэт-падпіска". Для гэтага толькі трэба мець пластыкавыя электронныя карткі: MasterCard, эмітаваную ААТ "Белгазпрамбанк", Visa і MasterCard, эмітаваныя "Пріорбанкам" альбо ЗАТ "Мінскі Транзітны Банк", сістэмы Easypay.***

***Юрыдычныя асобы здзяйсняюць аплату аформленай падпіскі адпаведна рахунку-фактуры, які накіроўваецца на адрас юрасобы па факсімільнай сувязі. Тэлефон для даведак — 293-55-26.***

***Тэлефон для даведак па пытаннях інтэрнэт-падпіскі — 327-75-27.***

КРОПКІ НАД «І»

## Падпісаўся...

Пакуль няма ніякіх прыкмет таго, што апошнія выбары ў Палату прадстаўнікоў стануць прадметам сур'ёзнага аналізу і асэнсавання з боку апазіцыі. Як, дарэчы, ніколі не разбіраліся дасягненні і памылкі кожнай з ранейшых выбарчых кампаній.

"Народная Воля" паспрабавала высветліць простае пытанне: ці ўсе прадстаўнікі апазіцыйных партый, якія ўвайшлі ў склад выбарчых камісій, не пагадзіліся з афіцыйнымі вынікамі галасавання. І аказалася, што адказу на гэтае пытанне ніхто не ведае. А можа, проста не хочуць гаварыць...

Як бы то ні было, але ўжо зразумела, што скардзіцца на неўключэнне ў склад камісій прадстаўнікоў апазіцыі — самае лёгкае. Мала, дзе-нідзе, але дэмакратаў у выбаркамы ўсё ж такі ўключаюць. Ты не менш толькі адзінкі (як Сяргей Вазняк) зрабілі гучныя заявы пра тое, што выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў адбываліся з парушэннямі, і публічна абгрунтавалі сваю нязгоду з афіцыйнымі пратаколамі галасавання. Астатнія альбо адмоўчваюцца, альбо ўвогуле пагадзіліся з вынікамі галасавання.

Так, сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Юрый Сенажэнка** з'яўляўся членам акруговай выбарчай камісіі па Прамысловай выбарчай акрузе №87 у Магілёве. З вынікамі выбараў **пагадзіўся.** Пад усімі пратаколамі **падпісаўся.** Асабіста як прадстаўнік апазіцыі засведчыў, што ніякіх прэтэнзій да выбараў па ягонай акрузе няма.

**Юрый Сенажэнка,** нарэшце, пагадзіўся патлумачыць сваю пазіцыю:

— Акруговая камісія насамрэч нічога ж не вырашае. Усё вырашаецца на месцах. Разумееце, я юрыст па адукацыі, падпісваю тое, што бачу як сябра камісіі. Я ж не ведаю, як адбывалася галасаванне. Я не быў на ўчастках, і таму фактаў фальсіфікацыі бачыць не мог. Камісія наша знаходзілася ў райвыканкаме. Ну, якія там маглі быць парушэнні? Вось я і падпісаў пратакол, бо там ніякіх парушэнняў не бачыў. Вось калі б, напрыклад, мне з участка трапіў пратакол аб тым, што на гэтым участку выйграў прадстаўнік апазіцыйнай партыі, а яго не запісалі, не ўлічылі... Вось гэта было б пытанне. Гэта было б парушэнне, якое я мог зафіксаваць. А так... Па пратаколах у нас усё сышлося, усё было ў парадку.

Ды зразумейце вы: камісія нічога не вырашае. Я не выявіў парушэнняў з пункту гледжання члена акруговай камісіі. Я не згодны з вынікамі гэтых выбараў, але гэта не значыць, што я выявіў нейкія парушэнні. Таму я падпісаў пратакол.

**— Дзіўная пастаноўка пытання. А з чым тады вы не згодны?**

— У глабальным плане, канешне, парушэнні былі. Я проста не веру, што кандыдат ад дэмакратычнага лагера не набраў галасоў. Але...

**— І вы не пацікавіліся ў кандыдатаў-калег па апазіцыйным руху?**

**— ...**

**— Вы не ведалі пра скаргі назіральнікаў?.. Можа, нейкая іншая прычына не дала вам магчымасці выказаць сваю пазіцыю? Я чула версію, што вас спалохала пагроза страціць бізнес...**

— Якая розніца, падпісаў бы я той пратакол ці не? Гэта ні на што б не паўплывала.

### ЗВАНОК КАНДЫДАТАМ

Каб высветліць, што ж на самай справе адбылося ў Магілёве, мы датэлефанаваліся да кіраўніка абласной арганізацыі АГП **Уладзіміра Шанцава**. Ён, дарэчы, сам балатаваўся ў Палату прадстаўнікоў менавіта па Магілёўскай-Прамысловай выбарчай акрузе і зняў сваю кандыдатуру ў знак пратэсту супраць несправядлівых выбараў.

*— Калі мы абмяркоўвалі кандыдатуры для ўдзелу ў акруговых камісіях, Сенажэнка прапанаваў: "Можаце запісаць мяне, бо ўсё роўна не ўключаць". Так і зрабілі,* — расказаў Уладзімір Шанцаў. — *Ні мы, ні ён не чакалі, што гэтым разам наш прадстаўнік у склад камісіі трапіць. Ні мы, ні ён не былі гатовы. Сенажэнка не разлічыў свае сілы і наступствы. А яму было што губляць. Ён жа дырэктар будаўнічай фірмы. Сам гаварыў мне, што не захацеў падстаўляць людзей. Калі б ён той пратакол не падпісаў — магчыма, былі б непрыемнасці па бізнесе.*

Аксана **Закрэўская**, яшчэ адзін кандыдат па гэтай акрузе, балатавалася пры падтрымцы грамадскай кампаніі "Гавары праўду!" і на выбарах ішла да канца. Яна сцвярджае, што парушэнняў было шмат. Неаднойчы Аксана наведвала старшыню акруговага выбаркама і скардзілася на дзеянні старшынь камісій.

*— Я вусна скардзілася на дзеянні аднаго старшыні ўчастковай камісіі ў акруговую ў дзень выбараў. Чаму не пісала? Я папросту бачыла, што гэта бессэнсоўна: ім кажаш адно, а яны на цябе глядзяць, нібыта ты з Марса. У дзень выбараў члены акруговай камісіі ездзілі па ўчастках. Я размаўляла са старшынёй. Маіх давераных асоб вывозілі з участка, ім і месца не давалі сесці. У нас былі заўвагі і да датэрміновага галасавання, напрыклад, дзе павінна знаходзіцца скрыня. Да таго ж былі пытанні, якім чынам назіральнікі не ўбачылі 500 чалавек, хаця, калі верыць дакументам, гэтыя людзі галасавалі. Але ім адказвалі: "Людзі прыйшлі, калі вас не было". Атрымліваецца, што чалавек выйшаў папаліць на пару хвілін, і за гэты час прыбеглі галасаваць 500 чалавек. Для мяне зразумела, што ўсё гэта — "мертвыя душы".*

***— Дык ці падавалі пісьмовыя скаргі?***

*— На ўчастках былі назіральнікі ад кампаніі "За справядлівыя выбары". Мы ім давалі ўсю інфармацыю. У нас па акрузе выбары, па сутнасці, адбыліся толькі на адным участку, а на іншых не было яўкі ўвогуле. Калі ж яшчэ ўлічыць усе нюансы датэрміновага галасавання, то... Чаму мы не напісалі скаргу? Таму што ў нас не было, так бы мовіць, афіцыйных доказаў. Як даказаць, што калі назіральніка не было 5 хвілін, то не маглі прыйсці адразу каля паўтысячы чалавек прагаласаваць? Але галоўныя прэтэнзіі ў нас да падліку галасоў, якога ніхто не бачыў. Нікога не дапускалі па тых ці іншых прычынах. Я думаю, што Сенажэнка не мог пра гэта не ведаць.*

**Даратэя СОЛТАН.**

**БЕЛАРУСЬ—ЕС**

## *Ці аддасць ЕС Нобелеўскую прэмію міру Беларусі?*

*Польскі еўрадэпутат Марэк Мігальскі прапануе перадаць фінансавыя сродкі, якія Еўрапейскі Саюз атрымаў у межах Нобелеўскай прэміі міру, на развіццё беларускай грамадзянскай супольнасці. Адпаведная прапанова ўтрымліваецца ў пісьмовым запыце, накіраваным еўрадэпутатам у Савет Еўрасаюза, паведаміла БелаПАН яго памочнік Ганна Бяляс.*

Мігальскі нагадаў, што адным з кандыдатаў на гэтую прэстыжную прэмію быў Алесь Бяляцкі. *"Гэты адважны беларускі апазіцыянер адбывае пакаранне ў выглядзе чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі за сваю праваабарончую дзейнасць",* — заявіў польскі еўрадэпутат, які з'яўляўся членам камітэта па вылучэнні Бяляцкага на гэтую прэмію.

Звяртаючыся да Савета ЕС, еўрадэпутат падкрэсліў той факт, што ў маштабе бюджэту Еўрапейскага Саюза сродкі, якія атрымае ЕС, нязначныя. Аднак перадача іх на падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасці "адназначна прынясе адчувальныя вынікі і, бясспрэчна, будзе садзейнічаць знікненню апошняй дыктатуры ў Еўропе".

*"Сорамна, што каля межаў Еўрапейскага Саюза дагэтуль кіруе дыктатар",* — адзначыў Мігальскі.

Нагадаем, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру 2012 года стаў Еўрасаюз. Пра гэта было афіцыйна абвешчана 12 кастрычніка Нобелеўскім камітэтам у Осла. Прэмію ЕС атрымаў за тое, што больш як 60 гадоў "прысвяціў прасоўванню міру і прызнанню дэмакратыі і правоў чалавека ў Еўропе".

Сёлета на ўзнагароду прэтэндаваў 231 кандыдат.

**ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...**

## *Кто возглавил агрокомбинат «Дзержинский»?*

***Подскажите, кто стал гендиректором ОАО "Агрокомбинат Дзержинский" после того, как его предыдущий руководитель Леонид Заяц возглавил Министерство сельского хозяйства?***

**Валерий ПАВЛОВИЧ, Минск.**

Новый гендиректор ОАО "Агрокомбината "Дзержинский" — **Иосиф Полочанин**. Его в начале сентября представил коллективу министр **Леонид Заяц.**

Иосиф Николаевич Полочанин родился 10 июня 1955 года. Окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию по специальности "инженер-механик". Работал механиком совхоза имени Черныша, главным инженером, председателем колхоза "Ленинский путь" Докшицкого района, начальником управления сельского хозяйства и продовольствия Докшицкого райисполкома Витебской области, зампредом Витебского облисполкома. Был депутатом Палаты представителей Национального собрания.

Имя Иосифа Полочанина в списке тех 110 депутатов, которые в 1996 году согласились похоронить Верховный Совет 13-го созыва и войти в назначенный президентом парламент.

До назначения главой агрокомбината "Дзержинский" Полочанин работал в Управлении делами президента, дословно должность называлась так: заведующий сектором сельского хозяйства и природопользования управления природных комплексов и сельского хозяйства Управления делами президента Республики Беларусь.

**Марина КОКТЫШ.**

**КАДРЫ**

## *Мартынаў працаўладкаваўся*

*Былы міністр замежных спраў Беларусі прызначаны спецыяльным прадстаўніком НК "Русснефть" у Беларусі.*



Пра гэта паведаміла прэс-служба нафтавай кампаніі.

У сферу адказнасці спецыяльнага прадстаўніка НК уваходзіць паглыбленне ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва кампаніі і краіны, удзел у распрацоўцы і рэалізацыі перспектыўных нафтагазавых праектаў як у Беларусі, так і іншых краінах.

Мартынаў нарадзіўся ў 1953 годзе, з 1975 года працаваў на кіруючых пасадах МЗС Беларусі, у тым ліку — Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам у ЗША. На пасадзе міністра замежных спраў Беларусі Мартынаў працаваў з 2003-га па 2012 года.

Прызначэнне Мартынава, як адзначаюць у кампаніі, *"падкрэслівае стратэгічную цікавасць НК "Русснефть" "да развіцця знешнеэканамічных сувязяў, пашырэння геаграфіі дзейнасці, узмацнення пазіцыі кампаніі на міжнародных нафтавых рынках".*

Раней паведамлялася, што саўладальнік кампаніі "Русснефть" Міхаіл Гуцэрыеў стаў інвестарам распрацоўкі Старобінскага калійнага радовішча ў Беларусі. У кастрычніку 2011 года было зарэгістравана ТАА "Славкалий", якое будзе займацца рэалізацыяй праекта, які прадугледжвае будаўніцтва магутнасці па выпуску 1,8 млн тон хлорыстага калію ў год. Суінвестарам гэтага праекта можа выступіць Сбербанк.

**РЭГІСТРАТУРА**

# Некаторыя беларускія лекі падаражэюць

*Сёння беларусы ў 70 працэнтах выпадкаў выбіраюць айчынныя прэпараты: яны ў чатыры разы танней, чым імпартныя.*

Трэба адзначыць, што кошты на лекі растуць увесь час. Здавалася б, больш за год прайшло пасля дэвальвацыі, пачынаючы с кастрычніка мінулага года долар не расце і нават крышку патаннеў, але прыходзіш у аптэку і літаральна кожны раз цэннікі там новыя. Афіцыйна, згодна з данымі Белстата, лекі з пачатку года падаражэлі на 22,4 працэнта. Айчынныя прэпараты раслі ў цане павольней — рост за студзень—ліпень 2012 года склаў 12,5 працэнта.

У бліжэйшы час падаражэюць яшчэ 33 найменні айчынных лекавых сродкаў. Усе яны з пераліку сацыяльна значных, цэны на якія рэгулюе дзяржава. Усяго "сацыяльных" прэпаратаў 161 найменаванне з больш як 1200, якія сёння выпускаюць беларускія фармвытворцы.

"Кошты на прэпараты са спісу сацыяльна значных усталёўваюцца па загадзе, — адзначыў намеснік міністра аховы здароўя, дырэктар Дэпартамента фармацэўтычнай прамысловасці **Генадзь Гадавальнікаў**. — Завод не можа іх самастойна ні павысіць, ні знізіць. Праз пэўны час пры неабходнасці прымаецца спецыяльнае рашэнне аб змене цаны на гэтыя прэпараты". На астатнія лекавыя сродкі беларускія вытворцы рэгулююць цэны самі, зыходзячы з рэнтабельнасці выпуску прэпаратаў, попыту на іх і г.д.

Па словах Генадзя Гадавальнікава, 10 кастрычніка на адмысловай камісіі Саўміна разглядаліся прапановы Дэпартамента фармацэўтычнай прамысловасці пра павышэнне коштаў на шэраг лекавых прэпаратаў са спісу сацыяльна значных.

"Гаворка ідзе пра 33 назвы, — адзначыў кіраўнік дэпартамента. — Падняць кошты на іх трэба, каб акупіць выдаткі на іх вытворчасць. Рост складзе ад 10 да 130 працэнтаў. Але ўсё роўна прэпараты будуць даступныя, таму што калі прэпарат каштаваў 1400 рублёў, то павышэнне на 15 працэнтаў — гэта 1600".

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Як змяніліся кошты на лекі?

Статыстыка — рэч, з якой не паспрачаешся, яна павінна быць аб'ектыўнай. Але мы адсочваем, як мяняюцца кошты на шэраг папулярных прэпаратаў у адной камерцыйнай аптэцы, што месціцца непадалёк ад рэдакцыі. Наш спіс выглядае так:

| Прэпарат | Цана ў кастрычніку 2011 г. | Цана ў кастрычніку 2012 г. |
|---|---|---|
| Но-шпа (40 мг, 100) | 31.000 | 52.850 |
| Супрасцін (25 мг) | 22.230 | 39.900 |
| Мезім фортэ (20 таб.) | 23.300 | 36.500 |
| Найз (20 таб.) | 21.410 | 38.200 |
| Кардыямагніл (100 таб.) | 27.800 | 48.800 |
| Дзіратон (20 мг, 28 таб.) | 65.930 | 111.500 |
| Хафітол (180 таб.) | 111.440 | 160.600 |

** Неабходна ўлічваць, што цэны на лекі ў розных аптэках могуць адрозніваццa.*

**БОЛЬ**

# Верните нам кровью и потом заработанные деньги!

Сколько говорено-переговорено, писано-переписано о так называемой компенсации сгоревших и обесцененных банковских вкладов в нашей республике! Людям болит от того, что они всю жизнь экономили, откладывали копейка к копейке, во многом себе отказывали — и вдруг все рухнуло, навсегда похоронив заветные мечты о приобретении квартиры или ремонте старого жилья, покупке машины, создании какого-то запаса на всякий случай...

Я почти ежедневно с болью в сердце вспоминаю недавнюю встречу в одном из отделений "Беларусбанка" с немощным ветераном Великой Отечественной войны с многочисленными боевыми орденами и медалями на груди.

— Как это ни печально, — рассказывал мне Николай Петрович со слезами на глазах, — но я теперь искренне завидую людям, которых ограбили неизвестные бандиты: у них есть еще хоть какая-то надежда, что грабителей найдут и вернут украденное. Меня же ограбили дважды — в 1990 году пропали мои нажитые долгим, нередко каторжным трудом в шахтах многотысячные советские банковские сбережения, а в 2011-м в три раза обесценился и теперешний мой скромный банковский вклад. Имена ограбивших меня "бандитов" (назвать их по-другому у меня язык не поворачивается) хорошо всем известны — это наше социально ориентированное государство и народный "Беларусбанк", громогласно и документально гарантировавшие сохранность и преумножение моих денег. Я уже давно беспомощный, больной пенсионер, еле сводящий концы с концами. И это в то время, как ограбившие меня мошенники живут, как говорят, припеваючи...

И действительно, мне до сих пор вспоминается, как в начале 90-х годов наш, уже белорусский Сбербанк развернул бурную деятельность по выдаче льготных кредитов коммерсантам, различного рода дельцам, проходимцам, решившим обзавестись дополнительными офисами, квартирами, дачами... Им охотно предоставлялись почти беспроцентные кредиты на строительство огромных дворцов и обустройство частных фирм. Еще и еще раз хочется спросить: почему эти "добрые", а точнее "преступные" деяния должны были осуществляться банком за счет ограбленных вкладчиков? Почему незаконно полученные кредиты были погашены инфляционными рублями?

Вот что сказал 9 марта 1999 года по этому поводу Александр Григорьевич Лукашенко: *"Была поставлена задача не просто разобраться в данном вопросе, а вернуть стране те деньги, которые в свое время раздавались налево и направо не в меру щедрыми руководителями банковских структур. Подобная благотворительность слишком дорого обошлась нашему народу и государству... Банковская сфера распоряжалась народными средствами, как хотела. А выдавались кредиты прежде всего друзьям, знакомым, родственникам, собственным детям..."*

Была поставлена задача... На словах или на деле? Обобранные до нитки вкладчики никак не могут понять, почему так долго (более десяти лет) не выполняются многократные поручения президента банковским службам и правительству о проведении второго этапа компенсации обесцененных в 1990-м вкладов населения.

А как понимать, что в стране до сих пор не реализовано предложение Нацбанка РБ начать с 1 января 2005 года второй этап компенсации обесцененных вкладов? Ведь еще 4 ноября 2004 года провластная газета "7 дней" сообщила: *"Национальным банком **в соответствии с поручением Президента** разработаны предложения по решению этой проблемы, которые направлены в Совет министров. В частности, для поэтапного осуществления дополнительной компенсации предлагается осуществить выплаты **в первом полугодии 2005 года** ветеранам Великой Отечественной войны, **во втором полугодии 2005-го** — лицам, достигшим 80 лет..."* Обнадежили стариков и опять забыли. Снова глухо как в танке...

Вопрос компенсации обесцененных банковских сбережений волнует сегодня тысячи и тысячи бессовестно обобранных до нитки вкладчиков. Куда они только не пишут, надеясь восстановить справедливость!

Так, минчанин Роман Рудковский совершенно к месту напоминает, что в нашей Конституции есть статья 44, которая гласит: *"Собственность, приобретенная законным способом, защищается государством. Государство **поощряет и охраняет сбережения граждан, создает гарантии возврата вкладов**". И тут же абсолютно резонно спрашивает: "А что в жизни? Сколько денег пропало у людей, которые, поверив государству, хранили сбережения в банках? И сколько ни требуют обобранные вернуть им кровно заработанное — власть как будто и не слышит..."*

А вот строки из многостраничного письма ветерана труда из Витебска Н.Н.Шашиловой: *"Нам говорят: ваши вклады "сгорели". Нет, не "сгорели" они, а пошли на обогащение госчиновников и работников банковских служб, на увеличение их зарплат. Эти "трудяги" получали беспрепятственно льготные кредиты дорогостоящими деньгами на строительство дворцов с непозволительной роскошью. Чужих денег ведь не жалко. После использования таких кредитов (а в Витебске они выдавались только по специальным спискам) от их сумм было отнято сразу четыре нуля, что позволяло закрывать их одномесячной, а то и однодневной зарплатой. Тогда же на четыре знака были сокращены и трудовые вклады населения, в результате чего сбережения честных тружеников перекочевали в карманы, по-другому не скажешь, жуликов.*

*В наших головах не укладывалось, как можно было отнять чужие трудовые деньги и использовать их на собственные нужды, сидеть у власти и чувствовать себя героем. Сегодня на все справедливые требования и запросы о выплате компенсации по трудовым вкладам мы получаем формальные, бюрократические, душеранимые и издевательские ответы".*

И далее Н.Шашилова с грустью вспоминает:

*"При советской власти строго не допускалось увеличения зарплаты выше роста производительности труда, поскольку нельзя больше потреблять, чем производится. Поэтому СССР не нуждался в получении кредитов. Ведь кредит — это не только экономическая, но и политическая зависимость. А рассчитываться за кредиты придется нашим детям и внукам".*

Правительство Союза ежегодно доводило задания всем министерствам и ведомствам по сокращению расходов на содержание органов госуправления, что в некоторой степени стабилизировало денежные обращения в СССР. Сегодня же по Витебской области только численность одних банковских служб увеличилась на 2,8 тысячи человек, или на 68,3 процента. В два раза выросла и зарплата банковских работников. Теперь по оплате труда они вышли на первое место в стране вместо ранее занимаемого шестого... Раньше по городу ходил только один работник милиции. Обычно это был участковый, а сейчас ходят по два-три, чуть ли не взявшись за руки (подобную картину нередко можно наблюдать и в Минске. — **К.Р.**) Да и в нашем Доме правительства при советской власти было достаточно только одного милиционера, а сейчас одного мало. Лишние люди раньше работали у станка и создавали продукцию. Да и строилось в городе только самое необходимое, без чего жить было трудно...

*"Присоединяюсь ко всем честным людям, которые высказывают на страницах наших независимых газет свое справедливое требование возвратить народу украденные у него сбережения,* — пишет в редакцию ветеран Великой Отечественной войны, заслуженный энергетик СНГ Дина Николаевна Питаленко из Минска. — *После окончания ВОВ я вышла замуж за своего одноклассника, тоже участника Великой Отечественной. Вместе работали на Белорусской ГРЭС и Оршанской ТЭЦ, учили и воспитывали двух сыновей, достойных граждан Родины. Мы тоже "погорели" со своими вкладами и поэтому считаем, что деньги, украденные у тружеников, должны быть возвращены им в полном объеме, а виноватые во всей этой волоките строго наказаны".*

А жительница Гомеля Н.И.Никитченко в своем обращении к президенту пишет: *"Я ветеран труда, инвалид второй группы, родилась в 1929 году. Всю жизнь трудилась, не жалея ни сил, ни здоровья. Надеялась на лучшие времена, с трудом собирала деньги на сберкнижку, чтобы потом помочь детям, чтобы им лучше и легче жилось, чем нам. Верила и думала, что так и будет. Я ведь одна растила детей и с великим трудом, экономя буквально на всем, собрала на сберкнижке 6760 полноценных советских рублей. А в результате развал СССР, все мои заработанные потом и кровью сбережения превратились в обыкновенную труху. Я ничего не прошу, кроме того, чтобы вернули мне долг — это мое законное право! Я знаю: таких, как я, много. Но люди в этом не виноваты. А государство должно заботиться о своих гражданах..."*

*"После распада Союза,* — пишут жители Новогрудка Родионов, Петров и другие, — *наши вклады рассеялись, как утренний туман. А ведь мы, престарелые пенсионеры, вкладывали их в белорусский Сбербанк. И теперь с нетерпением ждем, кто и когда вернет наши денежки. И долго ли еще ждать?.."*

Читательница из Рогачева О.Петрова твердо уверена, что сказание о сгоревших в наших банках вкладах населения в 90-е годы будет передаваться из поколения в поколение. И тут же интересуется: *"Как поступит с обманутыми вкладчиками государство на этот раз? Воспользуется ли оно шансом вернуть утраченное доверие к нашей банковской системе, оградив от потерь вкладчиков в национальной валюте, или это доверие давно уже никого не волнует?.."*

А вот всего лишь пару писем по поводу недавнего обесценивания в три раза наших теперешних банковских вкладов. *"Долгое время,* — пишет минчанин Сергей Вежновец, — *наша семья копила деньги в национальной валюте и хранила их в "Беларусбанке". Мы доверяли заверениям первых лиц государства, что они надежно защищены от инфляции. Сегодня с ужасом обнаружили, что в результате хитроумных валютных манипуляций государство фактически конфисковало почти половину наших сбережений. Неужели мы виноваты, что не прятали деньги в купюрах других государств? С таким же успехом можно было ворваться в наш дом и вынести всю мебель..."*

*"Так и хочется спросить,* — заключает свое обращение в редакцию С.Вежновец, — *кто и когда вернет мою собственность? Государство у нас правовое или как? И можно ли и дальше доверять "Беларусбанку" и первым лицам государства?.."*

О многом заставляет задуматься и письмо от студентки из Орши Л.Сафоновой. *"Осенью 2010-го,* — сообщает она, — *мне исполнилось 18 лет. Родственники всем миром на день рождения подарили деньги на компьютер. Я решила купить его после первого курса, а деньги, чтобы сохранить и "надежно защитить" сбережения, положила на счет в банке. Летом я забрала свои "надежно защищенные" сбережения и пришла в ужас: у меня украли более 400 долларов! Моя прабабушка (ей 89 лет) говорит мне, что я должна радоваться, что получила урок в начале жизни и "малой кровью". От нее я узнала, как поступили у нас с вкладами стариков в 90-х годах.*

*Из полученного урока я сделала следующий вывод: "Банки — это лохотронщики, которых "крышует" государство. Иначе как объяснить тот факт, что ни один банк не разорился, все (я специально интересовалась этим вопросом) рентабельны, все срабатывают с прибылью. Зарплата банковских работников (уже давно одна из самых высоких) за последнее время удвоилась. Выходит, они в шоколаде, а мы в дерьме. Не доверие они будут стараться вернуть к нашим деньгам, а все их старания будут направлены на то, как новых лохов поиметь..."*

И таких писем сотни и тысячи. Вопрос, как говорят, поставлен ребром. Но ответит ли наконец на него хоть одна из властных и банковских структур? А ведь их ответа уже давно с нетерпением ждут миллионы наших ограбленных вкладчиков, для которых истина дороже денег. И в первую очередь ждут не дождутся трудяги-ветераны, заслуженно и законно надеявшиеся на достойную и обеспеченную старость. Сегодня же многие из них, как уже неоднократно было сказано, со слезами на глазах и мучительной болью в сердце за незаслуженно причиненные им обиды и страдания, уходят в мир иной. Но, похоже, что нашим властям и банкирам наплевать на эти сантименты. Они, не боясь греха, готовы оправдать любые, даже откровенно преступные свои деяния спасительным, как они, видимо, считают, для них обыкновенным демагогическим словоблудием о "необходимости блюсти интересы государства". И при этом забывают, что интересы народа — это и есть интересы государства!

А может быть, я снова чего-то недопонимаю, в чем-то заблуждаюсь? Тогда еще раз хочется спросить: почему так долго и упорно, словно воды в рот набравши, молчат наши властные и банковские структуры? Или им сказать нечего? А может, они уже забыли, что "обобранные" и "униженные" ими с нетерпением и надеждой все еще ждут их дельного и честного комментария? Дождутся ли? А ведь наши законы и для них писаны! Или я опять ошибаюсь?!

**Константин РОМАНОВСКИЙ.**

**УКЛАДЫ**

## *Няма даверу рублям?*

*Тэрміновыя дэпазіты ў беларускіх рублях у банках скараціліся за верасень на 1,56 трлн рублёў. Затое беларусы масава панеслі на тэрміновыя дэпазіты замежную валюту — прыток вырас у эквіваленце на 4,2 трлн рублёў.*

Аб гэтым паведамляецца ў справаздачы Нацбанка Беларусі.

Прычым насельніцтва прыкметна апярэдзіла кампаніі і прадпрыемствы. Фізічныя асобы павялічылі тэрміновыя валютныя дэпазіты за верасень на 2,35 трлн рублёў у эквіваленце, а юрыдычныя асобы — толькі на 1,85 трыльёна.

Трэба адзначыць, што да верасня беларусы ахвотней неслі беларускія рублі ў банкі. Штомесяц захоўвалася станоўчая дынаміка прыросту тэрміновых дэпазітаў у нацвалюце. У прыватнасці, у жніўні прырост тэрміновых укладаў склаў 6,1%, у ліпені — 1,2%. У выніку за 9 месяцаў яны выраслі на 33,7%, або на 7 трлн рублёў.

Тэрміновыя дэпазіты ў верасні масава зачынялі як фізічныя асобы, так і кампаніі.

**КАЛЬКУЛЯТАР**

## *Да чацвёртай дэвальвацыі*

Зусім нядаўна, да трох дэвальвацый, 100 долараў каштавалі 300.000 рублёў. Цяпер 100 долараў каштуюць 845 тысяч рублёў.

Ці можна сёння за 845 тысяч рублёў купіць тое, што нядаўна за 300 тысяч?

| Назва прадукту | За 300.000 руб. | За 845.000 руб. |
|---|---|---|
| Свініна (кг) | 30 | 11 |
| Хлеб (бохан) | 150 | 120 |
| Бульба (кг) | 300 | 260 |
| Малако (1 л) | 300 | 170 |
| Каўбаса (сыравэнджаная, кг) | 15 | 7 |
| Памідоры (кг) | 140 | 84 |
| Гарэлка (0,5 л) | 50 | 21 |

Як бачым, пакупніцкая вартасць долара па стане на другую палову верасня б.г. істотна зменшылася. Я не эканаміст, няхай спецыялісты растлумачаць, чаму так атрымалася. Я ж лічу: таму, што чыноўнікі стварылі чарговы выбрык. Нацбанк доўгі час штучна ўтрымліваў курс рубля, падтрымліваў яго доларавымі ўліваннямі.

Незалежныя аналітыкі тады сцвярджалі, што долар павінен спыніцца на 12, а то і на 15 тысячах беларускіх рублёў. Не паслухалі — і вось плачэўныя вынікі.

Высокія начальнікі, па ўсім відаць, зноў вядуць краіну да чарговай, чацвёртай, дэвальвацыі...

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ, мінчанін.**

**ПОСТСКРИПТУМ**

*Павел ШЕРЕМЕТ*

# Патриарх без чуда

*О визите в Минск высшего иерарха Русской православной церкви журналисты узнали случайно, и еще за пару дней до приезда патриарха Кирилла подробности держались в тайне.*



Таинственность и символизм — понятные спутники любого масштабного путешествия предстоятеля. Особенно если учесть, что в Беларуси патриарх бывает редко. Это в Украину он ездит регулярно — несколько раз в год, а в Минск последний раз приезжал 3 года назад. И от нынешнего визита ждали некоего откровения.

У православной церкви в Беларуси нет никаких проблем. Она обласкана властью и находит финансовую поддержку для всех своих проектов. Однако последнее время среди политически активной части населения растет авторитет католической церкви. Папа Римский молится о Беларуси, посланник Папы навещает в тюрьмах белорусских политзаключенных. Католики теснят в общественном сознании православную церковь. Православные иерархи по злободневным и острым политическим вопросам отмалчиваются, еще теснее связывая себя с властью.

Патриарх Кирилл приехал во время большого праздника — Покрова Пресвятой Богородицы. Его обращение к верующим в честь праздника с призывом проявлять сострадание ко всем, кто находится в заключении, породило в Минске надежду, что ради визита первосвятителя РПЦ белорусский президент, например, выпустит из тюрем политзаключенных. Тем более что среди них есть глубоко верующие люди и именно православные.

Но все прошло по стандартной схеме — открытие памятника Алексию Второму, закладка камня в фундамент экспериментальной церковной школы, посещение нового храма и Дома милосердия, встреча с президентом Беларуси. Кирилл говорил о едином будущем России, Украины и Беаоруси. Лукашенко клялся, что никогда это будущее не предаст и наградил патриарха орденом Дружбы народов за вклад в строительство союзного государства. Разговоры о необходимости ускорить интеграцию на постсоветском пространстве вытеснили мысли о милосердии.

Чуда не произошло — темницы не открылись.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 КАСТРЫЧНІКА 2012 г.

ЧУЛІ?

## Былую «Ленінку» аддалі дэпутатам



Першая сесія новага складу Савета Рэспублікі будзе праходзіць ужо ў новым будынку. Абвешчана, што пятае скліканне верхняй палаты парламента пачне працу 19 кастрычніка ў 11.00 па адрасе: вул. Чырвонаармейская, 9.

Адрас добра знаёмы не толькі мінчанам. Гэта былая "Ленінка" — дзяржаўная бібліятэка імя Леніна. Яе рэканструкцыя працягвалася каля трох гадоў. Будынак унесены ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі і з'яўляецца адным з нешматлікіх помнікаў эпохі канструктывізму ў Беларусі.

Цікава, што першапачаткова планаваўся пераезд у "Ленінку" Канстытуцыйнага суда. Аднак у канчатковым выніку выбар быў зроблены на карысць Савета Рэспублікі, хоць па ролі ў жыцці нашай краіны гэтыя дзве структуры раўназначныя — ад іх нічога не залежыць, і яны нічога не вырашаюць. Аднак адрасці Савет Рэспублікі палічылі больш багадным. Справа ў тым, што цяперашні яго будынак па вуліцы Чырвонаармейскай, 4 ушчыльную прымыкае да комплексу будынкаў Адміністрацыі прэзідэнта. Трэба меркаваць, каляпрэзідэнцкі штат яго пасля і зойме.

Адным словам, курс на скарачэнне колькасці чыноўнікаў у дзеянні.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ТЫМ ЧАСАМ

## «Тут зона бяспекі!»

*Мы паспрабавалі не толькі словамі расказаць пра пераезд у адрэстаўраваны будынак былой Ленінскай бібліятэкі Савета Рэспублікі, але і паказаць фотавыяву новага фасада былой "Ленінкі". Але што з гэтага атрымалася?*

...Атрымаўшы рэдакцыйнае заданне і нічога не падазраючы, раблю адзін кадр, другі, трэці... І раптам — як чэрці з табакеркі — аднекуль павыскоквалі бравыя "салдатушкі-рабятушкі" з зоркамі на пагонах. І такія суровыя — у вуха не кладзі:

"Хто дазволіў?! Вашы дакументы! Тут зона бяспекі! Патрэбны спецыяльны дазвол, акрэдытацыя!" Ну, і ўсё такое, што ў нармальны розум ніяк не ўкладваецца. Карацей, выцягваю з шырокіх штанін рэдакцыйную "прад'яву": так і так, кажу ім, выконваю рэдакцыйнае заданне. Спрабую апеляваць да простай логікі: маўляў, які яшчэ дазвол, калі журналіст фатаграфуе фасад звычайнага дома, няхай сабе і з новай шыльдай на ім?! Але дзе там, зыркаюць, як на шпіёна, патрабуюць тут жа зліквідаваць — на іхных вачах — тыя тры ці чатыры кадры. Словам, згубіў час, слухаючы аднастайнае бубненне не то ахоўнікаў, не то чорт ведае каго.

Засталося ў "багажы" хіба адно — поўная агіда да ўсёй гэтай маразматычна-бесчалавечнай, казарменнай сістэмы, якая абрыдла настолькі, што і не выказаць. Ужо вяртаючыся ў рэдакцыю, прыгадаў, як у Вашынгтоне здымаў Капітолій, Белы дом, а ў Маскве будынак, дзе засядае Дзяржаўная Дума. Ніхто і ніводнага разу не спыніў, не запатрабаваў нават пасведчання — фатаграфуй хоць да ачмурэння. Затое ў сябе дома ўсё з дакладнасцю да наадварот. Сумна і агідна...

**Георгій ЧЫГІР.**

РАЗВАГІ ПІСЬМЕННІКА Ў ГОД КНІГІ

*Анатоль ЗЭКАЎ*

# «Закруціць бібліятэкі» ці круціцца самім?



Адзін райвыканкамаўскі кіраўнік на маё пытанне, як яны праводзяць Год кнігі, задаволена ўсклікнуў: "О, мы ўсе бібліятэкі ў раёне закруцілі!"

А мне прыгадалася размова з работнікамі "закручаных" бібліятэк — і не толькі таго раёна. Па іх словах, апроч патрабавання зверху плана мерапрыемстваў па правядзенні Года кнігі ды справаздач па яго выкананні, нічога кардынальна не змянілася. ***Грошай для папаўнення кніжных фондаў больш выдзяляць не сталі, матэрыяльная база не палепшылася, праблемы вырашаць не спяшаюцца, а самі бібліятэкі шмат дзе па-ранейшаму знаходзяцца ў ролі падчарыц***. Хіба што павялічваецца план па прыцягненні імі пазабюджэтных сродкаў за аказанне паслуг насельніцтву, прытым нават тым сельскім бібліятэкам, якім і аказваць іх няма чым: у наяўнасці ні камп'ютара, ні ксеракса. Вось і дастаюць бібліятэчныя жанчыны-дзяўчаты даведзеную ім суму грошай з уласнага небагатага кашалька... Ці не самы час у Год кнігі пераглядзець гэтую абсурдную практыку, бо наўрад ці раён пабагацее на некалькі соцень тысяч рублёў у месяц?

Зрэшты, слухаючы і адзін бок, і другі, падумалася: а ці для таго быў абвешчаны Год кнігі, каб улады на месцах "закруцілі бібліятэкі"? Няўжо ўладныя чыны не разумеюць, што тыя і без іх патрабавання "закручаныя" на кнізе, бо гэта і ёсць непасрэдная работа бібліятэчных устаноў, і для іх Год кнігі — кожны год? Прэзідэнт жа, падпісваючы адпаведны ўказ, несумненна, меў на ўвазе зусім іншае, і галоўнае, як мне здаецца, — павярнуць тварам да кнігі і бібліятэчных праблем менавіта саміх чыноўнікаў.

Перш-наперш кніга павінна заняць сваё пачэснае месца ў ідэалагічна-выхаваўчай рабоце не толькі навучальных устаноў, а і кожнага працоўнага калектыву. Форм работы тут шмат, але, па маім глыбокім перакананні, адна з самых дзейсных — чытацкія канферэнцыі і непасрэдныя сустрэчы з тымі, хто стварае кнігі, — пісьменнікамі.

Я даволі часта сустракаюся з чытачамі — як у сталіцы, так і ў самых аддаленых кутках Беларусі. Але дзе пераважна ладзяцца такія сустрэчы? Як правіла, у сценах бібліятэк або ў большасці выпадкаў па ініцыятыве тых жа бібліятэкараў (не педагогаў — нават падчас традыцыйных Тыдняў беларускай мовы ці літаратуры) у школах, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах — па сутнасці, там, дзе кніга і без таго запатрабавана. А вось прамысловыя і сельскагаспадарчыя калектывы застаюцца ўбаку, бо там гэтай справай ніхто не займаецца — ні прафсаюзныя, ні маладзёжныя арганізацыі. ***Дык няўжо нашы рабочыя, сяляне, інжынерна-тэхнічная інтэлігенцыя не вартыя таго, каб сустрэцца з пісьменнікам, пачуць яго расповед пра літаратуру, даведацца пра яго погляды на сучаснае жыццё, паслухаць новыя творы?*** Ды і самім пісьменнікам толькі на карысць кантакты з чытачамі, бо гэта рэальная магчымасць больш даведацца пра іх думкі, перажыванні, клопаты, праблемы і, вядома ж, пра тое, якіх кніг людзі чакаюць ад іх стваральнікаў. У гэтым многія літаратары пераканаліся падчас арганізаванай для іх прэзідэнтам напрыканцы мінулага года чатырохдзённай паездкі па Мінскай і Магілёўскай абласцях. ***Мясцовыя ўлады маглі б парупіцца, каб заахвоціць пісьменнікаў-землякоў да напісання нарысаў пра людзей роднага краю, стварэння дакументальных і краязнаўчых кніг пра яго гісторыю і гісторыю асобных прадпрыемстваў.*** Пісьменнікі ў гэтым плане могуць зрабіць шмат, але ім трэба даць зразумець, што іх праца не марная, а высока цэніцца на радзіме, дзе заўсёды запатрабаваны іх талент. І тут мне згадваецца аповед аднаго пісьменніка, між іншым, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, якога запрасілі на свята роднага горада і, можна сказаць, забыліся на яго, бо ўсё раённае начальства цэлы дзень круцілася каля іншага ўраджэнца раёна, заслужанага майстра спорту ў той дысцыпліне, у тонкасцях якой, мабыць, далёка не ўсе і разбіраліся. Узняць статус пісьменніка на належную вышыню, як гэта было ў савецкія часы (і не толькі на адзін Год кнігі!) — гэта справа дзяржаўная.

Не магу не звярнуць увагу і на той факт, што, як мне здаецца, на месцах разуменне Года кнігі звузілі да самой кнігі. А гэта наўрад ці ўсё. ***Год кнігі — гэта яшчэ і выдатная нагода згадаць пісьменнікаў-землякоў, па аналогіі з гісторыка-дакументальнымі хронікамі "Памяць" выдаць ці хаця б распачаць падрыхтоўку падобнага кшталту літаратурных анталогій, у якіх была б прадстаўлена творчасць тых пісьменнікаў, хто нарадзіўся ў раёне, хто працаваў тут і хто назаўсёды звязаў з ім свой лёс.*** Да прыкладу, толькі на маёй Буда-Кашалёўшчыне нарадзіліся беларускія пісьменнікі **Аляксей Кейзараў, Мікола Чарняўскі, Міхась Стрыгалёў, Іван Шальманаў, Уладзімір Дзюба, Таццяна Гарэлікава, Таццяна Атрошанка,** вядомы рускі казачнік **Піліп Гаспадароў**, працавалі **Міхась Лынькоў, Аляксандр Капусцін, Анатоль Казлоў, Міхась Болсун**, вучыўся **Мікола Кусянкоў**... Упэўнены: з'яўленне такіх кніг дасць імпульс для творчай актыўнасці пачынаючым аўтарам, і хто ведае, можа, сённяшнія школьнікі некалі ўпішуць і свае імёны ў літаратуру. Апроч усяго, гэта будзе і важкі ўклад у краязнаўства, якое такім чынам папоўніцца новымі літаратурнымі старонкамі.

Зрэшты, калі гаварыць пра пачаткоўцаў, то насцярожвае той факт, што многія раённыя і абласныя газеты амаль перасталі змяшчаць на сваіх старонках, як гэта было ў савецкія часы, іх вершы і апавяданні, агляды літаратурнай пошты. А менавіта рэгіянальныя выданні — ведаю тое з уласнага вопыту і расповедаў сваіх калег па пяры — з'яўляліся стартавай пляцоўкай для юных літаратараў. Дзе, скажыце, ім надрукавацца цяпер, асабліва калі ўлічыць, што зніклі ў ранейшым фармаце газеты "Раніца", "Чырвоная змена" і часопіс "Бярозка", адкуль брала вытокі ўся наша літаратура? Гэты сур'ёзны прабел неабходна ліквідаваць, як і наладзіць у кожным раёне работу літаб'яднанняў, над якімі б маглі (і павінны) узяць шэфства пісьменнікі-землякі.

Адсюль вынікае і яшчэ адна праблема, да вырашэння якой павінны наблізіцца чыноўнікі, — ушанаванне памяці пісьменнікаў (хаця, шчыра кажучы, я не бачу тут праблемы). ***Няўжо гэта цяжка — надаць імя пісьменніка вуліцы ці бібліятэцы ў вёсцы, дзе ён нарадзіўся, прымацаваць адпаведную шыльду на доме, дзе жыў, на школе, дзе вучыўся? Няхай яна будзе просценькая, без залішняй пампезнасці, але гэта будзе знак таго, што пісьменніка-земляка не забылі, памятаюць на радзіме. А колькі ў нас безыменных раённых і гарадскіх бібліятэк ці названых у гонар пісьменнікаў, заідэалагізаваныя творы якіх сёння і ў школе не вывучаюцца, або дзяржаўных палітыкаў, якія не маюць ніякага дачынення да сённяшняй суверэннай Беларусі?!*** Нічога не маю супраць рускіх пісьменнікаў А.Пушкіна, Л.Талстога, М.Гогаля, Ул.Маякоўскага, М.Астроўскага, А.Гайдара, тым больш польскага (і нашага!) А.Міцкевіча, чые імёны носяць дарослыя і дзіцячыя сталічныя бібліятэкі, але ж з беларусаў у гэтым шэрагу такога гонару ўдастоены толькі М.Багдановіч, Я.Купала, Я.Колас, Ф.Багушэвіч, Цётка, М.Танк, В.Вітка. А хіба не заслугоўваюць імяннной пашаны І.Шамякін, І.Мележ, П.Панчанка, А.Куляшоў, Я.Брыль, В.Быкаў, Ул.Караткевіч, І.Навуменка (я згадаў толькі хрэстаматыйных пісьменнікаў)? ***Ды і школы ў Мінску з імем пісьменніка можна, бадай, на пальцах адной рукі пералічыць***. Не лепшая сітуацыя таксама з гімназіямі, каледжамі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Тое ж самае назіраецца і ў іншых гарадах Беларусі.

А чаму б не надаць адпаведныя імёны прамысловым і сельскагаспадарчым прадпрыемствам, як гэта зрабілі, напрыклад, у Слуцкім раёне ў дачыненні да свайго земляка, вядомага беларускага пісьменніка, першага рэдактара часопіса "Вясёлка" **Васіля Віткі**? І тут не трэба ківаць некуды ўгару, ініцыятыву варта праяўляць самім. Хіба зверху сыходзіла ўказанне кіраўніцтву Мікашэвіцкай гімназіі Лунінецкага раёна надаць ёй імя **Уладзіслава Нядзведскага**, а ў самім горадзе займець адпаведную вуліцу? ***Думаецца, не абцяжараць мясцовыя ўлады сябе і тым, калі возьмуць на ўлік і замацуюць шэфства школьнікаў над магіламі мясцовых літаратараў, іх бацькоў і блізкіх родзічаў там, дзе даглядаць іх ужо няма каму. "Гэта, — як пісаў паэт, — трэба не мёртвым, гэта трэба жывым".***

Скажу больш: ушаноўваючы памяць памерлых, не трэба забываць і пра пісьменнікаў, якія, дзякуй Богу, яшчэ жывуць. Назвалі ж імем **Віктара Гардзея** вуліцу ў яго родных Малых Круговічах Ганцавіцкага раёна, а імем **Эрнеста Ялугіна** — у вёсцы Асінаўка Дубровенскага раёна! А хіба не варты такой памяці пры жыцці **Мікола Аўрамчык** у Бабруйскім раёне, **Іван Мураўейка** ў Любанскім, **Міхась Даніленка** ў Лоеўскім? Першыя двое перасягнулі ўжо 90-гадовы рубеж свайго жыцця, апошні адзначыць такі юбілей 28 кастрычніка. Дык няхай бы ўсцешыліся ўвагай да сябе пры жыцці! Зрэшты, **Міхася Пятровіча** можна было б нейкім чынам ушанаваць і ў Гомелі: за 30 гадоў працы ў абласной газеце праз яго рукі, па сутнасці, прайшлі ўсе гомельскія літаратары, імёны многіх з якіх сёння трывала прапісаліся ў беларускай літаратуры, а **Міхась Башлакоў** стаў нават лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Год кнігі павінен актывізаваць мясцовыя органы па наданні пісьменнікам-землякам у гарадах і раёнах звання ганаровых грамадзян. А чаму б не ўвесці такое пачэснае званне ў вёсках і пасёлках, з якіх у большыні сваёй выйшла ўся наша нацыянальная літаратура? Гэта яшчэ мацней знітуе майстроў прыгожага пісьменства з малой радзімай, а заадно паспрыяе землякам у больш глыбокім вывучэнні іх творчасці. Ды і самі літаратары пры гэтым значна актывізуюцца па ўслаўленні роднага краю і людзей, якія шчыруюць на бацькоўскай зямлі, знойдуць магчымасць дапамагчы ў арганізацыі культурна-масавай і асветніцкай работы: хто — прывязе на сустрэчу сваіх калег-пісьменнікаў, знаёмых артыстаў, кампазітараў, мастакоў, хто — падорыць бібліятэку кніг з аўтографамі аўтараў, хто — перадасць іх з уласнай бібліятэкі. Апроч таго, на месцах маглі б устанавіць і імянныя літаратурныя прэміі пераможцам алімпіяд па беларускай літаратуры ці вучням, якія праявілі асаблівыя здольнасці ў вывучэнні гэтага прадмета.

Многія з узнятых мной пытанняў маглі б ініцыяваць Саюз пісьменнікаў Беларусі, яго Бюро прапаганды, аддзяленні ў абласцях і г.Мінску, рэдакцыі часопісаў і газет, у якіх працаваў той ці іншы пісьменнік. Як гэта зрабіла, напрыклад, летась рэдакцыя часопіса "Вясёлка" сумесна з СПБ і сталічнай дзіцячай бібліятэкай №6 па присваенні апошняй імя першага рэдактара часопіса **Васіля Віткі** падчас святкавання яго 100-гадовага юбілею.

***Дык давайце ж зробім усё магчымае, каб Год кнігі хаця б на сваім завяршэнні сапраўды ўзняў на належную вышыню і кнігу, і тых, хто шчыраваў і хто працягвае шчыраваць у беларускай літаратуры! І на яе карысць, і на карысць свайго народа. Год кнігі заканчваецца, але ж кніга застаецца. І той, хто не пасябруе з ёй, духоўна абдзеліць сябе, а ў канчатковым выніку нашмат меней духоўным будзе і ўсё наша грамадства.***

МОДЕРНИЗАЦИЯ

*"Народная Воля" продолжает публикацию статей авторитетных и известных людей о том, какие реформы нужны нашей стране. Темой номер один в последнее время неожиданно стало партийное строительство. Сегодня мы представляем мнение бывшего главы Национального банка, профессора, почетного председателя Объединенной гражданской партии* ***Станислава БОГДАНКЕВИЧА.***

# Зачем нужны партии?



Историческое несчастье белорусов состоит в том, что, получив независимость, мы не смогли построить у себя **демократическую** Беларусь. Основатель демократии в древних Афинах Перикл утверждал, что на выборах народ проявляет себя всего лишь как источник власти, а получаемая власть таит в себе опасность возрождения тирании. Поэтому необходимо установление предела власти большинства и гарантирование для меньшинства права на продолжение общественно-политической деятельности, на критику власти, на получение власти на последующих свободных выборах. Но современная Беларусь решила оспорить аксиомы цивилизованного государственного устройства.

Демократия предполагает обязательное соблюдение определенных процедурных норм, гарантирующих на практике уважение гражданских прав и свобод. Выборы всего лишь позволяют гражданам отдать предпочтение одной из стратегий, предлагаемых конкретными личностями, политическими партиями, объединениями, группами. Демократия предполагает, что в период между выборами граждане должны располагать возможностью воздействовать на государственную политику посредством разнообразных гражданских институтов. Принципу защиты прав меньшинств в демократических странах предназначены определенные конституционные положения, требование разделения президентской, исполнительной, законодательной и судебной ветвей власти, сдержки и противовесы, предназначенные для противодействия диктаторским поползновениям одной из них. Для осуществления политической демократии обязательным условием является контроль правительства парламентом, защита альтернативных источников информации, право граждан создавать независимые ассоциации и организации.

В сегодняшней Беларуси отсутствует демократия — главное условие для проведения легитимных выборов. Не действует ряд статей Конституции: статья 4 о свободной конкуренции разнообразных политических идеологий и недопустимости навязывания какой-либо одной идеологии, статья 5 о праве политических партий на пользование государственными СМИ, статья 33 о недопустимости монополизации СМИ и недопустимости цензуры и ряд других.

Современная демократия может функционировать только в виде представительной демократии и парламентской системы. В этой системе определяющая роль принадлежит политическим партиям, призванным выражать интересы отдельных социальных групп народа. Существование политических партий базируется по меньшей мере на двух условиях: на плюрализме общества и на возможности участия общества в принятии решений государства. Партии предлагают общественности свои программы, а также концепции и орудия, с помощью которых они намерены осуществить свои программы. Участие в формировании и реализации политической воли граждан — главная задача партий. Соревнование между идеями, программами, концепциями приводит к плюралистическому обмену мнениями. В демократическом парламенте не настолько важно выяснение воли всего народа, сколько сочетание разных интересов социальных групп.

К важнейшей функции партии относится ее участие в формировании общественного мнения. Эта задача относится к публичному характеру партий. Общественность должна быть осведомлена о программах, политических деятелях, проектах, концепциях и перспективах партий.

В Беларуси политические партии находятся в загоне, на задворках политической жизни. Выборов по партийным спискам у нас нет. Хотя это ведь абсурд, когда в парламенте решения принимаются отдельными депутатами, реализующими свои индивидуальные предвыборные программы. Представляете — 110 индивидуальных программ! И каждый кандидат твердит избирателям, что обеспечит реализацию своей, любимой.

Понятно, что нужен переход на формирование парламента по смешанной мажоритарно-пропорциональной системе.

При этом само собой разумеется, что в стране не должно быть политических репрессий, должна быть проведена реабилитация политзаключенных, обеспечена свобода СМИ. Должна быть прописана процедура открытого подсчета голосов, согласно которой подсчет ведет один из членов комиссии, гласно озвучивая волю каждого избирателя, демонстрируя бюллетень всем членам комиссии и наблюдателям.

А вот для досрочного голосования необходима письменная просьба избирателя с обоснованием невозможности проголосовать в день выборов. Все вышесказанное очевидно. Однако не сделано. Почему?

Введенная главой государства в 1996 году новая редакция Конституции предоставила президенту огромные полномочия и превратила принцип разделения властей в фикцию. Но реальные действия по фактической узурпации власти свели на нет даже те куцые сдержки и противовесы, которые дает эта Конституция. Парламент не является самостоятельным институтом власти и полностью подчинен президенту. Суды также не являются самостоятельной и независимой ветвью власти. Конституционный суд превратился в ничего не значащий консультационный орган. Ликвидировано местное самоуправление. Власть на местах принадлежит президентской вертикали, назначаемой главой государства. В стране сформирована модель авторитарного управления, базирующаяся на неограниченной власти исполнительной "вертикали".

Усиление административно-командных методов управления привело к возрастанию роли силовых структур и прежде всего спецслужб. Они стали важной опорой режима, существенным фактором его жизнеспособности. В Республике Беларусь действует сеть спецслужб с правом ведения оперативно-розыскной деятельности. Растет их численность, увеличивается финансирование. Таким образом, деньги, которые можно было вкладывать в развитие страны, мы тратим на то, чтобы усмирять недовольных.

Отказываясь проводить реформы, власти сознательно консервируют старую социальную модель общества. Большинство населения объединено в прежние структуры, которые в несколько видоизмененном виде продолжают играть роль тоталитарного каркаса. Так, трудовые коллективы, как и прежде, выполняют политические функции. Сознательная политизация прежних полутоталитарных структур происходит параллельно с ограничением и нейтрализацией политических и общественных функций. Любые претензии структур гражданского общества (хозяйственный субъект, партия, общественная организация, газета, фонд) на самостоятельную роль, автономное существование рассматриваются как враждебные, дестабилизирующие действия. Поэтому тотальное наступление государства на появляющиеся ростки негосударственных структур, вытеснение их из общественной жизни является необходимым условием существования режима. Причем значительная часть их формально не ликвидируется, а интегрируется в государственную инфраструктуру, превращается в марионеточные. Деятельность тех организаций, которые не согласны на такую роль, насильственно ограничивается.

**Белорусская действительность свидетельствует, что путь от тоталитаризма к демократии и либерализму труден и тернист.** Белорусское общественное сознание болезненно и очень медленно освобождается от прошлого.

Вместе с тем у авторитарного режима нет исторической перспективы. Неизбежна смена политического и экономического курса. Какие еще реформы, по мнению профессора Богданкевича, нужны Беларуси, читайте в следующем номере.

**Станислав БОГДАНКЕВИЧ, профессор, почетный председатель Объединенной гражданской партии.**

ТРАНСПАРТ

## Палова сабекошту транспартных паслуг — зарплата работнікаў

Вадзіцелі зараз зарабляюць у сярэднім 6,7 мільёна рублёў.

Начальнік фінансава-эканамічнага ўпраўлення "Мінсктранса" Ганна Міхайлоўская распавяла журналістам, з чаго складаецца сабекошт транспартных паслуг. Паводле яе слоў, асноўную долю займае зарплата работнікаў — каля 50% з налічэннямі. Расходы на аплату электра- і цеплаэнергіі складаюць каля 18%, прыкладна столькі ж — на паліва.

У бягучым годзе акупнасць перавозак складае каля 30%, тады як у мінулым яна даходзіла да 40%. За 9 месяцаў гэтага года ў параўнанні з такім жа перыядам 2011-га тарыф на праезд у гарадскім пасажырскім транспарце вырас на 176,4%. У той жа час электраэнергія падаражэла ў 2 разы, цеплавая энергія і дызельнае паліва — у 2,1 раза.

ПРАПАНОВА

## Замест камерцыйнага жылля арэнднае

Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Калінін прапануе з 2015 года ў Мінску практычна не будаваць камерцыйнага жылля — толькі арэнднае і па дзяржзамове.

*"У гарадах-спадарожніках таксама неабходна будаваць арэнднае жыллё",* — адзначыў ён падчас "Прамой лініі" ў газеце "Рэспубліка".

І патлумачыў, чаму прыйшоў да такой высновы: *"Гэта еўрапейская практыка: працоўныя рэсурсы прывязваюцца да месца працы і шукаюць там жыллё. А ў нас наадварот: жыллё вызначае прывязку працоўных рэсурсаў да тэрыторыі".*

Анатоль Калінін таксама лічыць, што арэнднае жыллё павінна быць не толькі ў сталіцы і абласных цэнтрах, але і ў тых гарадах, дзе ёсць сур'ёзныя прамысловыя комплексы — у Жодзіне, Жлобіне, Астраўцы.

*"Мы ж не пабудуем там столькі камерцыйнага жылля, а арэнднае — можам. У арэндным жыллі не месяц і не два жывуць, а доўгія гады, а то і ўсё жыццё. Мы зробім прывабным кошт пражывання там. Ён ужо цяпер у сярэднім у два разы ніжэй за рынкавы",* — паведаміў ён.

## Псіхолаг уратаваў мужчыну ад самагубства

Амаль дзве гадзіны псіхолагу МНС прыйшлося адгаворваць невядомага мужчыну ад скачка з трубы вышынёй 105 метраў у Магілёве.

Гэта здарылася вечарам у суботу 13 кастрычніка. У 20.36 да ратавальнікаў паступіла інфармацыя, што невядомы мае намер скокнуць з неэксплуатаванай трубы на тэрыторыі ААТ "Завод штучнага валакна".

У 23.59, пасля пераконвання псіхолага, мужчына спусціўся на зямлю і ўцёк. Яго асобу міліцыі ўстанавіць не ўдалося.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## Ці прыслухаецца беларускі бок да камітэта ААН?

*Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнне правоў баранавіцкіх актывістаў.*

"Камітэт па правах чалавека, дзейнічаючы ў адпаведнасці з пунктам 4 артыкула 5 Факультатыўнага пратакола да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, лічыць, што прадстаўленыя яму факты сведчаць аб парушэнні Беларуссю артыкула 19 і артыкула 21 Пакта", — гаворыцца ў Меркаваннях, прынятых Камітэтам ААН па правах чалавека ў адказ на скаргу дэмакратычных актывістаў з Баранавічаў Сяргея Гоўшы, Віктара Сырыцы і Віктара Мезяка, піша spring96.org.

Скарга актывістаў датычылася забароны на правядзенне мітынгу "За свабодную, незалежную і квітнеючую Беларусь" 10 верасня 2006 года. 4 верасня 2006 года Баранавіцкі гарвыканкам адмовіў актывістам у правядзенні мітынгу на той падставе, што сустрэча на аналагічную тэму ўжо адбылася ў памяшканні гарадскога выканаўчага камітэта 15 сакавіка 2006 года.

Гэтая забарона была абскарджана ў судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы, а потым у судовай калегіі па грамадзянскіх справах Брэсцкага абласнога суда. Аднак скаргі актывістаў былі адхілены. Такім чынам, актывістамі былі вычарпаны ўсе наяўныя ўнутрыдзяржаўныя сродкі прававой абароны ў спробе ажыццявіць свае права на мірныя сходы, гарантаванае артыкулам 35 Канстытуцыі.

Камітэт прыйшоў да заключэння, што прадстаўленыя факты сведчаць аб парушэнні правоў аўтараў дзяржавай-удзельніцай. Апошняя, акрамя таго, абавязана прадаставіць аўтарам эфектыўны сродак прававой абароны, уключаючы пакрыццё панесеных імі судовых выдаткаў і кампенсацыю.

НАША ГІСТОРЫЯ

# Бітва ля Сіняй Вады (Снівады)

*Восенню 2012 года — 650 гадоў з часу гістарычнай бітвы на Сіняй Вадзе (Снівадзе), у якой нашы войскі разграмілі войскі татарскіх ханаў, вызвалілі тагачасныя ўкраінскія землі ад Залатой Арды і далучылі іх да Вялікага Княства Літоўскага. Гэта быў адзін з лёсавызначальных момантаў у нашай айчыннай гісторыі.*

...Адным з галоўных накірункаў знешняй палітыкі Вялікага Княства Літоўскага — нашай сярэднявечнай дзяржавы — у XIV стагоддзі быў паўднёвы. Разам з мэтай аб'яднання ўсіх, па-сучаснаму кажучы, беларускіх земляў і далейшага наступу на ўсход, каб вызваліць ад татарскага ярма іншыя ўсходнеславянскія тэрыторыі, было вызваленне з-пад Залатой Арды і ўкраінскіх земляў.

Такім чынам стрымлівалася пагроза татарскіх набегаў на ВКЛ і пашыралася тэрыторыя гэтай, ужо даволі вялікай дзяржавы ва Усходняй Еўропе. У Залатой Ардзе ў гэты час унутраная сітуацыя была няпэўнай. Пасля забойства ў 1357 годзе хана Джанібека і смерці праз два гады яго сына Бердзібека там пачалася міжусобная барацьба за ўладу: цягам дваццаці гадоў на залатаардынскім пасадзе змяніліся больш за 25 ханаў. Пачаўся распад Залатой Арды. Вялікі князь ВКЛ Альгерд удала выкарыстаў гэта для вызвалення тэрыторыі Кіеўскага княства, дзе кіраваў татарскі васал — князь Фёдар. Альгерд імкнуўся пасадзіць у Кіеве праваслаўнага мітрапаліта Вялікага Княства Літоўскага, каб украінская праваслаўная царква падпарадкоўвалася не мітрапаліту маскоўскаму, а канстанцінопальскаму патрыярху.

На поўдні цяперашняй Украіны — тады ў Дзікім Стэпе — ханы кіравалі сваімі ордамі: Крымскай, Перакопскай і Джамбайлуцкай. Яны кантралявалі абшары на поўнач ад Чорнага мора і Падолію. У "Летапісе вялікіх князёў літоўскіх" адзначалася, што татарскія ханы *"былі отчычамі і дзедзічамі Падольскай зямлі. Ад іх імя кіравалі атаманы і баскакі, прыязджаючыя ад гэтых атаманаў, збіралі з Падольскай зямлі даніну".* Супраць іх і павёў сваё войска, сабранае на беларускіх (тады літоўскіх) землях, Альгерд. Аснову войска складалі апалчэнні вотчынных земляў самога вялікага князя — Віцебскай, Віленскай, Менскай і Наваградскай (з цэнтрам у Крэве).

У паход са сваімі войскамі пайшлі і пляменнікі Альгерда — сыны наваградскага князя. У канцы лета 1362 года войска Вялікага Княства Літоўскага было папоўнена апалчэннямі з Валыні.

Кіеў быў узяты, замест татарскага васала Фёдара Кіеўскім князем Альгерд пасадзіў свайго старэйшага сына Уладзіміра, замацаваўшы і гэтае княства за сваёй дынастыяй і далучыўшы яго да сваёй дзяржавы — ВКЛ. Ад Кіева пачаўся непасрэдна паход у Дзікае Поле, дзе, непадалёк ад левага берага Паўднёвага Буга, і адбылася знакамітая бітва 1362 года.

"Хроніка Літоўская і Жамойцкая" паведамляе, што, мінуўшы Канеў і Чаркасы, Альгерд са сваім войскам пайшоў у Заходнюю Падолію да Паўднёвага Буга. Як паведамляе "Хроніка", *"указалася ім у полі вялікая арда з трыма царыкамі, на тры абозы падзеленая, гэта значыць, Катлубая, Катыбея-Бекера і Дзімейтра Султана. То бачыўшы, што да вайны гатовыя татары, Альгерд падзяліў войска свае на 6 гуфаў (палкоў), закрыўленых з бакоў".*

Войска было пастаўлена ў некалькі шэрагаў у форме сярпа з высунутымі наперад флангамі. Баявы парад нашага войска пазбаўляў татараў магчымасці прарваць гэтыя шыхты і зайсці яму ў тыл.

Бітва пачалася нападам татар па фронце. *"З вялікай запальчывасцю татары град жалезны з лукаў на літву густа пусцілі, але ёй стральбою не зашкодзілі з-за ўмелага пастраення і хуткага расступлення",* — сведчыць летапісец, які называе "літвою" наваградскія атрады.

Войска Альгерда лёгка адбіла націск татар у цэнтры і на флангах і само перайшло ў наступ, ударыла ў цэнтр і на флангі татарскіх сіл. Асабліва вызначыліся навагарадчане на чале з Карыятавічамі, валілі татар з коней. Вая́ры Альгерда стралялі па ворагах і з самастрэлаў (кушаў) з каменнямі і металічнымі бомбамі. Пасля нядоўгага бою татары пацярпелі паразу: падалі *"не інакш, як снапы ад гвалтоўнага ветру, татары разбітыя, а не маючы больш ад літвы бою вытрымаць, пачалі мяшацца і ўцякаць па шырокіх палях. Там жа царыкаў іх трох: Катлубая, Катыбея-Бекера і Дзімейтара Султана забілі. І мурзаў, і ўланаў пабіта вельмі шмат, трупаў таксама татарскіх поўныя палі і рэкі былі".* Пераможцы забралі ўвесь ардынскіх абоз і дзясяткі статкаў, у тым ліку вярблюдаў. Рэшткі татарскай конніцы ўцяклі на Дунай і далей у Дабруджу.

У выніку бітвы ля Сіняй Вады 1362 года ад татарскай няволі былі вызвалены Кіеўская зямля, Падолія, Чарнігаўскае княства. Гэтыя тэрыторыі ўвайшлі ў склад ВКЛ, якое пашырала сваю ўладу да вусцяў Дняпра і Днястра. Як адначае летапіс, Альгерд гэтым землям *"ад татар вольнасць учыніў".* Усё гэта значна ўмацавала пазіцыі Вялікага Княства Літоўскага ва Усходняй Еўропе.

Бітва ля Сіняй Вады дала магчымасць будаваць у Падоллі і іншых украінскіх землях замкі і гарады, засяляць пустыя землі, бо была арганізавана надзейная абарона насельніцтва ад нападнікаў. Гэтая бітва дала магчымасць Вялікаму Княству Літоўскаму праводзіць і далей цвёрдую палітыку ў дачыненні да Залатой Арды...

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, прафесар, доктар гістарычных навук.**



*На здымку: "Вялікі князь Альгерд" (твор Міколы Купавы).*

И В ШУТКУ, И ВСЕРЬЕЗ

## Сбылось Ваше мудрое предвидение...

Многоуважаемый Александр Григорьевич!

Сбылось Ваше мудрое предвидение. В магазин хожу, как в музей. За вход плату не берут. Спасибо!

**Владимир ПРОКОФЬЕВ, пенсионер.**

*Могилев.*

**P.S.** Народовольцы! Опубликуйте. Может, кто-то со мной не согласится, интересно будет прочитать.

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

## Яўген ГУЧОК

***

*Я азірнуўся на сабаку,*
*А той сабака — на мяне.*
*І неяк разам мы заплакалі*
*Аб нашай роднай старане.*

***

*Больш горкай праўды*
*Не знайсці у свеце,*
*Калі ў бацькоўскім доме*
*Гадзяць дзеці.*

***

*Кіпцюрамі ён —*
*Спартыўны.*
*А галоўкай —*
*Прымітыўны.*

***

*З прычыны разумовага*
*Калецтва*
*Рагоча сёння*
*Чалавецтва.*

***

*Хто без цара*
*У галаве,*
*Той без цара*
*Не пражыве.*

***

*Не адвучайцеся*
*Ад роднай мовы,*
*Каб не былі —*
*Нібы нядойныя каровы.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ

## Яшчэ 12 гатэляў

***Чула, што ў Мінску да чэмпіянату свету па хакеі, які пройдзе ў маі 2014 года, будуць уведзены ў эксплуатацыю яшчэ 12 гасцініц. Няўжо гэта праўда? Сёння пустуюць тыя гатэлі, што ёсць. Што будзе пасля чэмпіянату з аб'ектамі, якія будуюцца зараз?***

***І. ПУГАЧ, Мінск.***

Так, гэта праўда. За перыяд, які застаўся да чэмпіянату свету па хакеі, які пройдзе ў маі 2014 года, плануецца ўвесці ў эксплуатацыю 12 гасцініц. Акрамя таго, для працы ў сферы гасцінічнага абслугоўвання спатрэбяцца каля 3 тысяч чалавек.

Да канца бягучага года плануецца ўвесці ў эксплуатацыю 3 гасцінічныя аб'екты. У завяршальнай стадыі знаходзіцца "Прэзідэнт-гатэль" (былая гасцініца "Кастрычніцкая") — будаўнічая гатоўнасць 98%, і ў цяперашні час вызначаецца дата адкрыцця. Да канца бягучага года плануецца завяршыць рэканструкцыю гасцініцы "Палёт". Трэці аб'ект, які плануецца адкрыць у бліжэйшы час, — камунальная гасцініца ў складзе фізкультурна-аздараўленчага комплексу на вуліцы Якубоўскага.

Зараз у Мінску функцыянуюць 29 гатэляў, дзе можна адначасова размясціць 4352 пастаяльцы. Загрузка гасцініц за 9 месяцаў 2012 г. склала 68%. Гэта, дарэчы, максімум, якога ўдалося дасягнуць за апошнія 12 гадоў.

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

## Як караюць п'яных вадзіцеляў у Літве?

***Прачытаў у мінулым нумары "Народнай Волі", што ў Літве штраф за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане ўсяго толькі 38—58 доларaў. Але ці сапраўды гэта так? Я часта бываю ў Літве і чуў ад мясцовых жыхароў, што там з п'янымі кіроўцамі не цырымоняцца і могуць нават канфіскаваць аўто.***

***С.Скакун, Мінск.***

У Літве, як і ў Беларусі, мера пакарання нецвярозага вадзіцеля залежыць ад таго, упершыню ці не яго затрымалі п'яным за рулём, а таксама ад ступені ап'янення. Па літоўскім законе за руль можна садзіцца тады, калі ў крыві не больш за 0,4 праміле алкаголю, у нас гэтая норма складае 0,3 праміле.

Калі супрацоўнікі дарожнай паліцыі Літвы затрымліваюць вадзіцеля, які знаходзіцца ў стане невялікага ап'янення — інтаксікацыі (літоўскім законам яна вызначана з 0,41 да 1,5 праміле), яму пагражае штраф у памеры 380—580 доларaў (1000—1500 літаў) з пазбаўленнем права кіраваць транспартным сродкам на год-паўтара. У мінулым нумары мы сапраўды памыліліся, указаўшы, што гэты штраф складае 38—58 доларaў.

Калі ступень ап'янення сярэдняя (ад 1,51 да 2,5 праміле) альбо цяжкая (ад 2,51 праміле і болей), вадзіцель адмаўляецца ўстанавіць ступень ап'янення і п'е пасля ДТЗ, памер штрафу ўзрастае да 770—1150 доларaў (2000—3000 літаў), таксама вадзіцеля пазбаўляюць права кіраваць транспартным сродкам на тэрмін ад двух да трох гадоў або караюць адміністрацыйным арыштам ад 10 да 30 дзён з правам пазбаўлення кіраваць транспартным сродкам на тэрмін ад двух да трох гадоў.

Калі ў затрыманага п'янага вадзіцеля няма вадзіцельскага пасведчання, парушальнік адмаўляецца прайсці праверку для ўстанаўлення ступені ап'янення, а таксама ўжывае алкаголь пасля ДТЗ, яго штрафуюць на суму 1500—1920 доларaў (4000—5000 літаў) альбо караюць адміністрацыйным арыштам на 20—30 дзён.

Калі вадзіцель, які ўжо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці, зноў папаўся п'яным за рулём, яго пазбаўляюць права кіраваць транспартным сродкам на тэрмін ад 3 да 4 год і канфіскоўваюць аўтамабіль. Калі ў вадзіцеля няма вадзіцельскага пасведчання, яго арыштоўваюць на 20—30 дзён і таксама канфіскоўваюць аўто. У выпадках, калі парушальніка не могуць прыцягнуць да адміністрацыйнага арышту, яго караюць штрафам ад 1500 да 1920 доларaў (4000—5000 літаў) і канфіскоўваюць аўтамабіль.

Так што сапраўды, у Літве з тымі, хто садзіцца за руль у нецвярозым стане, не цырымоняцца.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СПРАВА БЯЛЯЦКАГА

*"Народная Воля" працягвае друкаваць часткі з кнігі пра вядомага праваабаронцу, якую напісаў журналіст Радыё Свабода Валер Каліноўскі.*

*(Пачатак у №№145—146, 149—160.)*



# Турма

**Уладзімір Някляеў**, паэт і кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года, 19 снежня быў збіты да непрытомнасці ў цэнтры Мінска, калі ішоў на Кастрычніцкую плошчу, на акцыю пратэсту апазіцыі.

З чэрапна-мазгавой траўмай ён трапіў у шпіталь хуткай дапамогі. Праз некалькі гадзін быў адтуль выкрадзены супрацоўнікамі спецслужб, арыштаваны паводле абвінавачвання ў арганізацыі масавых беспарадкаў. Паэму "Турма" ён пачаў пісаць 25 снежня 2010 года ў "Амерыканцы", унутранай турме КДБ, а скончыў пад хатнім арыштам, пад які яго перавялі 29 студзеня 2011 года.

Асуджаны на два гады зняволення з адтэрміноўкай адбыцця пакарання, Някляеў у жніўні 2011 года напісаў хадайніцтва аб вызваленні Бяляцкага пад ягонае паручальніцтва. Някляеў называе сябе сябрам Алеся:

"Бяляцкага я ведаю з часоў ягонай рамантычнай маладосці, калі ён быў яшчэ студэнтам Гомельскага ўніверсітэта і вучыўся разам з паэтам Анатолем Сысам. Потым быў аспірантам, у 1980-х — адным з заснавальнікаў таварыства маладых літаратараў „Тутэйшыя". Алесь — вельмі грунтоўны, сур'ёзны даследчык літаратуры і добры літаратар.

Але асноўная дзейнасць Бяляцкага — менавіта праваабарончая. Я сам сядзеў у турме і ведаю, што гэта такое. Там думаеш перш за ўсё не пра сябе, а пра тое, што робіцца з тваімі блізкімі, з тымі, каго ты любіш. Хто-небудзь клапоціцца пра іх ці не клапоціцца? І калі ты ведаеш, што гэта так, што нехта пра іх клапоціцца, — ты не трасешся на допытах, ты не баішся, што з табой будзе, таму што ты ўпэўнены, што ўсё добра будзе з тваімі роднымі, пра іх клапоцяцца. А калі ты не ведаеш — ты зусім іншы чалавек: ты баішся, ты трасешся, ты ўжо не змагар. Бяляцкі дапамагаў усім тым, хто сядзеў, усім тым, хто быў пад пагрозай арышту, быць змагарамі".

### Самыя сумныя Каляды

Вечар 24 снежня 2011 года, калі каталікі па ўсім свеце рыхтаваліся сустрэць першую зорку, **Алесь Бяляцкі** правёў у камеры №212 Жодзінскай турмы. Як актыўны вернік, адзін з заснавальнікаў Беларускай каталіцкай грамады, думаў пра свята і ён, пісаў сябрам, што збіраецца выпіць за Каляды і Новы год кубак кіпеню... За некалькі дзён да таго жонка Наталля пабывала на спатканні з ім у турме і праз шкло ды краты перамоўнага пакоя паведаміла, што спрабуе дамагчыся ягонага спаткання з бацькам **Віктарам Усцінавічам**, безнадзейна хворым на рак лёгкіх 4-й ступені. Размова ішла пра дні і гадзіны, якія засталіся Віктару Усцінавічу.

Бацька Алеся сам напісаў ліст з просьбай аб спатканні з сынам у суд Першамайскага раёна. Менавіта гэты суд быў упаўнаважаны вырашаць такія пытанні, бо Алесеў прысуд на той час быў абскарджаны ў гарадскім судзе і не ўступіў у законную сілу.

19 снежня сястра Алеся Вольга і жонка Наталля перадалі старшыні суда **Тамары Высоцкай** зварот ад паміраючага бацькі. Спачатку ім адмовілі, а потым Наталлі патэлефанавалі і запрасілі ў суд. Суддзя Высоцкая дала дазвол з наступнай прыпіскай:

"Разам з тым тлумачым, што вырашэнне ўсіх пытанняў, звязаных з дастаўкай, этапаваннем абвінавачанага, арганізацыяй бяспекі ў час шляху следавання і спаткання, адносіцца да кампетэнцыі СІЗА №8 горада Жодзіна".

З гэтым лістом у той жа дзень Наталля паехала ў Жодзінскую турму. Але начальнік турмы, які вёў прыём, адказаў: "Па гэтым дазволе я не маю права яго адпускаць. Тут павінна быць указанне суда на адрас ГУУС Мінгарвыканкама, абласной міліцыі, дазвол на вываз абвінавачанага з СІЗА. Калі ўсё гэта будзе, то мы адпусцім. Нам патрэбны новы дакумент, і мы можам яго прыняць нават факсам".

20 снежня Наталля зноў прыйшла да Высоцкай і падала яшчэ адну заяву аб спатканні Алеся з бацькам, ужо ад свайго імя, ды папрасіла яе гэтым разам "даць указанні ўсім службам". Суддзя напісала новы дазвол.

"Пры гэтым яна мне сказала: майце на ўвазе, тое, што я даю гэты дазвол, гэта я зрабіла вам крок насустрач, гэта мой добры жэст. А ўва што вы ўсё гэта пераўтвараеце? Гэта вам не ЖЭС, што вы прыходзіце сюды і пішаце свае заявы", — кажа Наталля.

Але новы ліст старшыні суда быў толькі дапаўненнем да ранейшага дазволу, у якім яна напісала:

"Суд лічыць магчымым ажыццявіць прадстаўленне спаткання, у тым ліку з канваіраваннем абвінавачанага да месца спаткання за межы СІЗА №8 пры ўмове арганізацыі бяспекі ў час шляху следавання і спаткання".

Гэты дакумент таксама не даваў указанняў "усім службам". З гэтым лістом Наталля паехала ў гарадскую ўправу міліцыі Мінска, канвойную службу, Дэпартамент выканання пакаранняў...

"Але ўсё без сэнсу, увесь тыдзень я бегала па гэтых службах. У чацвер зноў прыйшла ў суд, прынесла паперу з адмовай Дэпартамента выканання пакаранняў. Чакала паўтары гадзіны, але Высоцкая мяне не прыняла, выйшла яе сакратарка і сказала: „Для вас суддзя Высоцкая зрабіць нічога не можа".

У суботу 24 снежня, не дачакаўшыся сына, Віктар Усцінавіч памёр. На 83-м годзе жыцця.

*Уладзімір НЯКЛЯЕЎ*

**ТУРМА**

*(Паэма)*

### Ноч на роздум

*Цяпер, калі ты не са мной,*
*Не на плячы маім, не побач,*
*З турмой я засынаю ў поўнач*
*І прачынаюся з турмой.*
*З турмы ў турму пішу лісты:*
*"Каханая мая, Святая!.."*
*І што не прачытала ты,*
*Турма са мной ўначы чытае.*
*Я цалаваўся з ёю ў сне,*
*Яна ў маіх абдымках спала!*
*"Ты закахаешся ў мяне!" —*
*Турма мне горача шаптала.*
*І не было такога сна,*
*Каб у якой нары ваўчынай*
*Табой не снілася Яна*
*І не была маёй жанчынай...*
*І голасам тваім турма,*
*Душу мне змучыўшы да болю,*
*Шаптала, што пішу дарма*
*Лісты*
*з няволі*
*у няволю.*

ВЗГЛЯД ИЗ РОССИИ

# Белорусы, куда вы собрались?

Я этнический белорус, хотя родился и вырос в России. Мать и отец родом из Жлобинского района. Вышло так, что и жена у меня белоруска. Сам я военнослужащий. Полковник. Отмечу, несмотря на родословное происхождение, везде и всюду подчеркиваю: я русский человек. И это связано с одним фактором. В России всегда, даже в советские времена, было очень развито чувство национального. Далеко за примерами ходить не надо. Андрей Громыко, будучи белорусом, так до конца своих дней и говорил с белорусским акцентом, хотя писал в анкетах "русский". По анкетным данным русским был и маршал Советского Союза Соколовский, который родился в глухой белорусской деревне в бывшей Гродненской губернии. Таких примеров много, и их не перечесть...

Сейчас, когда остро встал вопрос, будет ли Россия русской державой, национальность играет огромнейшую роль в стране. Тем не менее Беларусь и белорусский народ являются для меня не пустым звуком...

Правда, многое из того, что происходит в Беларуси, мне абсолютно не понятно. Много разговоров идет о создании Союзного государства, а иногда говорят о создании единого государства.

Я никогда не брал в руки журнал "Неман", но, приехав как-то в Минск к родителям своей жены, прочитал в 12-м номере за 2011 год статью, написанную Олегом Пролесковским, министром информации РБ и заместителем директора Информационно-аналитического центра при Администрации президента РБ, доктором философских наук Львом Криштоповичем "Союзное государство — уникальный интеграционный проект". В статье часто встречаются такие слова, как "единое государство", "единый народ". Делаются ссылки на то, что президент Беларуси Александр Лукашенко широко пользуется этими понятиями. Будучи военным, я обратил внимание и на то, что Александр Григорьевич употребляет слова "единая армия".

В свое время товарищ Сталин прямо говорил, что у политика, притом крупного, а им является президент Лукашенко, не должно быть случайных слов. Мне так думается, что глава белорусского государства подчеркивает, что нет разницы между двумя народами и государствами, а коль так, то должно быть единое государство. Естественно, российское, что маленькая Беларусь по сравнению с огромнейшей Россией. В таком случае не будет белорусского народа, а будет только русский. Не будет и белорусского языка...

Я не специалист по государственному строительству, не этнограф, не языковед, но являюсь гражданином. И как гражданин я хочу, чтобы каждый понимал, что вышесказанное означает.

В силу многих обстоятельств Россия всегда являлась жестко централизованной державой. Как показывает история, малейшее послабление ведет к развалу. Мы все помним, как Ельцин стал давать суверенитет автономным республикам и дошло дело до того, что в Конституции Татарстана прямо написали, что он является суверенным. Появилось столько президентов, что оторопь брала. Много потребовалось сил, даже человеческих жертв (война в Чечне), чтобы восстановить единство страны.

Вне всякого сомнения, Кремль не допустит, когда будет образовано единое государство, чтобы Беларусь имела не подчиненные ему государственные структуры. Говоря другими словами, если и будет сохранен так называемый парламент, то он будет являться филиалом Госдумы и не более того. Республиканские министерства и ведомства также не будут самостоятельны. Сама Беларусь будет лишена областей. На что содержать такое количество управленцев?.. Она станет субъектом Российской Федерации и не более того. Думается, если произойдет такое слияние, то со временем и название нынешней Беларуси дадут другое. Зачем ворошить в памяти прошлое?..

Как известно, народ и язык неразрывно связаны между собой, как дитя и мать. С языком в едином государстве будет очень просто. Чего греха таить, большинство белорусов говорят на русском как на работе, так и дома. Так что ликвидация белорусского языка не потребует больших усилий. Надо будет только отменить в школах уроки по *беларускай мове*, что будет встречено многими родителями с ликованием. Сделать русскоязычными все газеты (правда, я и так не понимаю, почему теперь заголовок у некоторых белорусский, а всю информацию дают на русском языке (газета "Рэспубліка", например). Снять с госдотаций белорусскоязычные книгоиздательство и театры — и вопрос решен.

Несколько слов о единой армии. Бесспорно, это будет встречено с большой радостью в армейской среде. Белорусы всегда отличались в Советской Армии своей подготовленностью и высокой дисциплиной. Это с одной стороны, а со второй — ныне в российской армии служит много солдат неславянской национальности, что приводит ее к потере боеспособности и дедовщине. По крайней мере, приход белорусов, а вернее западнорусских, снимет в определенной мере существующие негативы. Вполне, естественно, новобранцы из Беларуси будут служить, как раньше говорили, где Родина прикажет.

Авторы многих статей подчеркивают, что Беларусь надежно защищает западные рубежи. Это так. Но вот возникает простой вопрос: будут ли западные страны воевать с нами? Ответ дает бывший представитель России при НАТО Дмитрий Рогозин, который прямо сказал, что Североатлантический альянс с Россией воевать не будет. Видеть в Западе врага — глупо. Наши граждане едут жить в западные страны, а у кого есть деньги — и лечиться, и отдыхать. Тем, кто говорит, что западные страны — наши враги, следует отдыхать в Северной Корее, Китае, Сирии, Ливии. В чем дело, почему не хотите?

Известный российский ученый Александр Храмчихин, занимающийся российского-китайскими отношениями, не исключает того момента, что Кремль при явной угрозе со стороны Китая будет просить помощи у НАТО. Так что не актуально теперь бояться Запада. Поэтому я вот подумал: а представляют ли белорусские авторы истинное положение экономики России? А она такова: технологические, научные и кадровые ресурсы, оставшиеся после СССР, подходят к концу. В стране ликующих менеджеров и нищенствующих ученых и инженеров все чаще тонут проржавевшие суда, сгорают не долетевшие до орбиты ракеты, падают выработавшие ресурс самолеты, стареет жилой фонд, выходят из строя коммуникации. Президент Медведев фактически признал, что выпускаемая промышленная продукция неконкурентоспособна. Страна фактически стала сырьевым придатком развитых стран. Приезжайте в Сибирь, и вы увидите, как вырубается тайга. Необработанный лес идет прямо в Китай.

В создании единого государства, которое будет называться Союзным государством, авторы статьи видят возможность поднять на высокий уровень развитие экономики. Может быть, оно так, но чудес на свете не бывает. А кое-кто рисует славный город Китеж! Такое чудо: город, где все надежды сбываются, растет уровень жизни людей, где власть заботится обо всех без исключений гражданах, а экономика так растет, что берет зависть.

А вот реалии другие. Михаил Старшинов, депутат Госдумы от Смоленской области, в одной из российских газет написал: *"Моя поездка по смоленским деревням и поселкам, общение с теми, кого принято называть "простым народом", причиняют мне невыносимое страдание. Беспросветное пьянство, заброшенные хозяйства, голь, тоска. Спиваются старики и дети, мужья и жены. Пьяные драки и поножовщина. Пьяные аварии на дорогах, самоубийства, разрушенные семьи, рожденные на свет уроды. Исчезает на глазах народ".*

Так в какое государство собрались, белорусы?

**Александр ЕМЕЛЬЯНОВ.**

*г.Иркутск.*

## И стоит этот Ленин спиной к храму...

Я человек верующий, православный, но в собор Св.Петра и Павла в Гомеле, в живописном парке, не хожу. Дело, казалось бы, в мелочи, но для того, кто верит в Бога, это вовсе не ерунда. Неподалеку от парка, на площади имени Ленина, стоит изваяние антихриста, повернутое к святому храму спиной. Такой была и его чудовищная политика по отношению к религии.

Не хочу ходить, упираясь в эту спину. Это оскорбляет не только мои, но и чувства иных верующих. Так вот, призываю местные власти и тех, кто верит не в Бога, а в своего идола, скинуться на перенос (если не снос) этого нежелательного монумента хотя бы в другой конец площади. Тогда собор и наш театр будут смотреть друг на друга и делать одно благородное дело — воспитывать в человеке лучшие черты, учить добру и милосердию.

**Яков ГОМЕЮК, житель Гомеля.**

